# ШТО ТЫ ВЕДАЕШ ПА ГІСТОРЫІ СВАЙГО НАРОДА?

Ад сваіх бацькоў, ад дзядулі і бабулі татары чулі паданні пра тое, як яны апынуліся на Беларусі. З школьных падручнікаў не вельмі многа даведаешся пра гісторыю татар. У папулярнай казцы А.С. Пушкіна"Пра царэўну і багатыроў" сказана, як моцныя і мужныя рускія хлопцы бавілі свой час:

... или выманить из леса пятигорского черкеса,
иль башку с широких плечь у татарина отсечь.

Некалькі разоў на уроках гісторыі і рускай літаратуры тлумачыцца пра тое, якая высокая культура была у рускага народа да татара-мангольскага нашэсця, як рускі народ гераічна змагаўся трыста гадоў з іншаземнымі прыгнятальнікамі і як гэта барацьба засланіла заходнееўрапейскія краіны ад татарскага нашэсця. Вось з прычыны татарскага іга і да гэтага часу застаюцца некаторыя цяжкасці.

Каб дзеці, а таксама і дарослыя крыху разабраліся з тым, адкуль мы ўзяліся, як жывём сярод беларускага народа, Station Станіслаў Думін і Ібрагім Канапацкі, пры грашовай дзяржаўнай дапамозе у выдавецтве "Полымя" /1993 г./ выпусцілі у свет навукова-папулярную кнігу пад назвай:"Беларускія татары: мінулае і сучаснасць". З гэтай кнігі, з артыкулаў часопіса "Байрам", які выходзіць у свет чатыры разы на год, а таксама з іншых артыкулаў, што друкуюцца у газетах і часопісах, цікаўны чытач можа атрымаць патрэбную інфармацыю.

Па просьбе рэдакцыі "Байрама" дацэнт Беларускага педагагічнага універсітэта, кандыдат гістарычных навук І.Б. Канапацкі склаў пытанні, якія пакажуць чытачу, што ён ведае, а аб чым яшчэ трэба крыху пачытаць, спытаць у больш дасведчаных.

Тым, хто хоча засведчыць сваё знаёмства з гісторыяй і этнаграфіяй беларускіх татарау, можна будзе пры Беларускім згуртаванні татарау-мусульман "Аль-Кітаб" здаць іспыты і атрымаць адпаведнае пасведчанне.

## ПЫТАННІ ДА ІСПЫТАУ ПА ТАТАРАЗНАУСТВЕ

1. Чым адрозніваюцца татары ад навакольнага насельніцтва?
2. Дзе жывуць літоускія татары і чаму іх так называюць?
3. Мусульманскія і цюркскія народы.
4. Вітаут Вялікі.
5. Хан Залатой Арды — Тахтамыш.
6. Паход Тахтамыша і Вітаута Вялікага у Прычарнамор"е /1397 г
7. Бітва пад Ворклай 1399 г.
8. Падрыхтоука да рашаючай бітвы Беларуска-Літоускай Дзяржавы і яе саюзнікау з крыжакамі.
9. Грунвальдская бітва.
10. Роля Вітаута і яго пераемнікау у гісторыі Залатой Арды.
11. Трактат пра літоускіх татарау — Рысале-і-татар-і-Лех.
12. Адносіны Вялікага Княства Літоускага з Крымам.
13. Гісторыя роду Глінскіх.
14. Татарскае асадніцтва у Беларуска-Літоускай Дзяржаве.
15. Рэвізіі татарскіх зямель у Беларуска-Літоускай Дзяржаве.
16. Асноуныя прычыны рэзкіх ваганняу колькасці татарау у Беларуска-Літоускай Дзяржаве.
17. Татары-зямяне.
18. Татары-казакі і беззямельныя татары-рамеснікі.
19. Татарскія харугвы і сцягі.
20. Гаспадарскія татары /служылі Вялікаму Князю, каралю Рэчы Паспалітай, пазней называлі кароннія харугвы/.

21. Татары на службе у магнатау.
22. Ягайла і Ягелоны.
23. Спробы абцяжарыць татарау дадатковымі павіннасцямі і падаткамі.
24. Статуты Вялікага Княства Літоускага і соймавыя канстытуцыі па прававых пытаннях татарау.
25. Ганцы, талмачы і паслы-татары.
26. Свяшчэнная кніга мусульман — Кур"ан.
27. Сунна — збор Хадзісау — сведчанняу пра словы і учынкі прарока Мухаммеда.
28. Хамаіл — мусульманскі малітоунік і Аль-Кітаб.
29. Мугіры — мусульманскія выслоуі — знаходзяцца у мячэцях і жылых памяшканнях мусульман.
30. Дуалар і граматкі.
31. Мячэці. Знешні выгляд і унутранае абсталяванне.
32. Мізар. Што трэба ведаць, калі ты наведваеш мізар.
33. Мусульманскі пост.
34. Малітва.
35. Азан — наданне імя дзіцяці.
36. Вясельны абрад.
37. Пятніца і гадавыя мусульманскія святы, памятныя дні і ночы.
38. Пахароны.
39. Мусульманскія з"езды на мізарах. Чаму у пасляваенныя гады пашырыліся гэтыя звычаі на Беларусі?
40. Суннет — абразанне.
41. Дазволеная і забароненая ежа для мусульманау.
42. Найбольш вядомыя стравы татарау-мусульман.
43. Вучоба татарау-мусульман. Годжы і гаджыні.
44. Праследаванне мусульман за веру у пачатку [illegible] ст. і пры савецкай уладзе.

45. Лівонская вайна і паўстанне Багдана Хмяльніцкага.
46. Руска-польская і руска-шведская вайна на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага і трагедыя літоўскіх татараў у сувязі з гэтай вайной.
47. Сям"я Туган-Барановскіх.
48. Бунт ліпкаў — пераход часткі каронных татарскіх харугваў на бок турэцкіх войскаў.
49. Ян Ш Сабескі і татарскае асадніцтва у Падляшшы.
50. Магнаты Сапегі. Паўночная вайна 1700—1721 гг. і лёс татараў у гэтай вайне.
51. Гісторыя першых уланаў у Рэчы Паспалітай.
52. Магнаты Радзівілы.
53. Польскія каралі Аўгуст II і Аўгуст Ш, Станіслаў Ляшчынскі, Станіслаў Аўгуст і стаўленне іх да татараў.
54. Генерал-маёр Беляк.
55. Канстытуцыя Рэчы Паспалітай 3 мая 1791 года.
56. Тадэвуш Касцюшка і удзел татараў у паўстанні Касцюшкі.
57. Кацярына II і адносіны яе да беларускіх татараў.
58. Напалеон I. Удзел татараў у Руска-французскай вайне 1812—1814 гг.
59. Паўстанне 1831 года і ўдзел ў ім татараў.
60. Паўстанне 1863—1864 гг., удзел у ім беларускіх татараў.
61. Ажыўленне нацыянальна-рэлігійнай дзейнасці татараў у Расіі у канцы 19 і пачатку 20 стагоддзяў.
62. Татары у час Першай сусветнай вайны.
63. Удзел літоўскіх татараў у адраджэнні Рэчы Паспалітай.
64. Ажыўленне рэлігійнага і нацыянальнага руху татараў у Рэчы Паспалітай у 20-х і 30-х гадах 20 ст.
65. Удзел татараў у Другой сусветнай вайне.
66. Адносіны татараў з хрысціянскім насельніцтвам у Беларусі.

67. Адносіны камуністычных улад да татараў-мусульман.

68. Заснаванне і дзейнасць Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб".

69. Першая Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы".

70. Другая Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Ісламская культура татараў-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы і яе узаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі".

71. Перыядычныя выданні татараў Беларусі, Літвы і Польшчы ў 30-х—80-х гадах XX стагоддзя.

Склаў І. Канапацкі.

## МУСУЛЬМАНСКІЯ АРАБСКІЯ ІМЁНЫ

| | | |
|---|---|---|
| سَعِيدَة - | Саіда | шчаслівая, паспяховая |
| سَلِيمَة - | Саліма | няшкодная, здаровая |
| سَمِيرَة - | Саміра | субяседніца |
| سَفَر | Сафар | ад назвы месяца Сафар |
| صَفِيَّة | Сафія | цнатлівая, абранніца |
| سُلَيْمَان | Сулайман | мірны, ахавaны |

СЯМ"Я АХМЕТШЫНЫХ

Татарская афіцэрская сям"я жыве на Беларусі з 1979 года. Ільгізар Габдурахманавіч нарадзіўся ў в. Селішча Пермскай вобл. 20 чэрвеня 1946 года, закончыў Вышэйшае ваеннае інжынернае вучылішча ў Пермі. З жонкай Людмілай Сяргееўнай, выпускніцай інстытута замежных моваў, выгадавалі дачку Алену /прозвішча па мужу Салаўёва/ і сына Андрэя. Дачка і сын скончылі Беларускі дзяржаўны універсітэт: яна гістарычны, а ён факультэт журналістыкі. Дзеці жывуць і працуюць у Менску. Ільгізар Габдурахманавіч — падпалкоўнік у адстаўцы. Жыве з жонкай у Петрыкаве Гомельскай вобл., Людміла Сяргееўна — на педагагічнай рабоце.

Ахметшыны ведаюць сваіх продкаў, якія жылі ў XIX стагоддзі: Карымуллiны, Гайсін — выхадцы з в. Тымішык Сабінскага раёна Татарстана і Ісмаілавы, Абдулавы — з в. Кузем"ярава Бардымсага раёна Пермскай вобласці. Бацькі Ільгізара — Ахметшын Габдры /Габдурахман/ Ахмадзішавіч і маці — Сафура Муратаўна /ў дзявоцтве Абдулава/ жылі ў пасёлку Юга-Камскі Пермскай вобл., цяпер жывуць у горадзе Пермі.

Прозвішча Ахметшыны паходзіць ад імя прадзеда Гайсін Ахмадзіша, які памёр у 1933 годзе. Дзяцей, якія засталіся сіротамі звалі звычайна Ахмадзішыны, а аднойчы ў дакументах запісалі — Ахметшыны, так і павялося.

Заканчваючы вучобу на гістарычным факультэце, Алена Ільгізараўна напісала дыпломную працу па гісторыі беларускіх татар. У адным з нумароў "Байрама" мы пазнаёмім нашых чытачоў з асноўнымі палажэннямі гэтага цікавага даследавання. Спадзяемся, што і журналіст Андрэй Ільгізаравіч парадуе нас сваімі публікацыямі, звязанымі з татарскай тэматыкай.

## БЫЛІ СЯРОД ТАТАРАЎ ПАХАДЖАІ...

Цяпер ужо немагчыма вызначыць, што ва ўспамінах належыць мне, што маёй маці і бабулі, што цёткам. І успаміны гэтыя прыемныя. Былі на Беларусі гарады і мястэчкі дзе жыло па 10, а то і па 50 татарскіх сямей, але жылі татары і у вёсках, засценках, дзе мусульманскія сем"і былі у 2—3 хатах, ці жыла наогул толькі адна сям"я. Тады з прыходам у дом чалавека, які казаў: "Салям алейкум", усе у хаце адказвалі са здзіўленнем і радасцю: "Алейкум сялям". Часам такім госцем быў незнаёмы чалавек, які праз людзей знаходзіў мусульманскую сям"ю. Яму прапаноўвалі ваду, каб памыць рукі і твар, запрашалі за стол. Пасля абеду, калі гэта было вясною ці летам, госць, памаліўшыся як прынята у мусульман у бок святога ґорада Мекка /мугір на сцяне паказваў патрэбны напрамак/, пытаў аб тым, ці ёсць паблізу мізар — мусульманскія могілкі. Калі ж мізар быў, то прыняўшы абдэсь /рытуальнае мыццё/, госць разам з кім-небудзь з сямейнікаў, ішоў на мізар. Абышоўшы мізар злева направа, пяючы адпаведныя аяты з Кур"ана, сам ці з дапамогай хлопчыка або гаспадара шукаў магілы пэўных людзей, каб памаліцца за душу памерлага. Гэта была магіла каго-небудзь з яго радні, прыяцеляў, а часцей за усё мусульманіна, за якога прасілі той ці іншы мусульманін, ведаючы, што падарожны будзе з аказіяй на мізары. Я спецыяльна не называю госця пахаджаем, як называлі такіх людзей за вочы. А чаму? Госць ёсць госць і у мусульман не прынята пытаць у чалавека, чаму ён прышоў і колькі будзе гасцяваць, куды накіруецца далей. Прыдзе час і ён сам раскажа, калі палічыць патрэбным. Ужо пад старасць я стаў думаць, а чаму ж гэтых людзей называлі пахаджаямі? Можа таму, што яны ха-

дзілі пешшу, праводзілі большую частку свайго не такога ужо і працяглага старэчага веку? А можа таму, што яны так здзяйснялі свой хадж — падарожжа у мусульманскія асяродкі? Паводле мусульманскай веры трэба хоць раз у жыцці татарыну пайсці і пакланіцца у святыя гарады — Мекку і Медыну, памаліцца у славутых мячэцях, але калі дайсці туды не было магчымасці, калі нельга было прайсці праз розныя дзяржавы і граніцы, тады можна было здзейсніць такі малы хадж, які нашы, не вельмі навучаныя у справах веры татары, лічылі таксама угоднай Аллагу справай.

Як я дадумауся, пахаджаем станавіуся чалавек, калі ён ужо выгадавау дзяцей, дачакауся унукау, гэта значыць, што яму можна было адлучыцца ад розных клопатау і пахадзіць па свеце, ды і самому зрабіць нешта карыснае. Нярэдка пахаджаем станавіуся чалавек, які страціу жонку, сына ці дачку і каб хоць трохі забыць сваё гора, ішоу у свет. Вядома, што пажылыя людзі вельмі адчуваюць няувагу блізкіх людзей: ці то нявестка коса паглядзела на свёкра, а сын не заступіуся за бацьку, ці то зяць не па-сыноуску ставіцца да старога. І сітуацыі такія бывалі не толькі у мусульманскіх сем"ях. Усім вядома, што граф і пісьменнік Леу Талстой таксама зышоу з хаты і памёр сярод чужых.

Пахаджаеу любілі малыя дзеці, бо госць звычайна прыносіу салодычы — цукеркі, пернікі /пячэнне/. Калі гэта была садага, то гаварыу за каго, а нярэдка гэта былі пачастункі ад тых татар, дзе ён быу у гасцях. Калі ж хто-небудзь не здагадауся перадаць салодычы, то сам пахаджай мог выдумаць і сказаць, што дзецям паслае тая ці іншая цёця і так зла-годжвау пэуную яе нездагадлівасць ці скупасць. У час абеда,

вячэры ці снядання пахаджай хваліу стравы гаспадыні і пры гэтым не забывау, што Зуля ці Асэя, у якой ён частавауся, таксама пячэ вельмі смачную локшыну, варыць калдумы, або такія смачныя у яе перакачаванікі! Ніколі пахаджай не скажа благога слова пра тых, у каго прыйшлося пабыць госцем. Калі бачыу, што у доме ёсць хлопец, якому і жаніцца пара, то гаспадару ці гаспадыні казау, якая добрая, разумная і прыгожая ёсць дачка у Хадычы у Докшыцах, што каб меу бы свайго унукадзяцюка, то быу бы рад мець яе за нявестку. Вядома, тады жонку выбіралі не на конкурсах прыгажосці ці на фестывалях сучаснай песні, віцебскіх"базарах".

Перад госцем маці, цётка, бабуля хацелі паказаць, як іх Смоля ці Сюля добра чытае Кур"ан. І тут пахаджай згадвау пастаускіх ці мядзельскіх татарау, якія таксама вучаць сваіх дзетак па-мусульманску.

Звычайна пахаджай ведау розныя гісторыі з жыцця мусульман. Заусёды там былі расказы з Аль-Кітаба, з жыцця прарокау, а то і выдуманыя ім самім. Дзеці з задавальненнем слухалі. Калі здаралася, што госць-прыхаджай завітау зімой, у час з моцнымі маразамі ці завеямі, гаспадары упрошвалі госця не пакідаць іх у такую пару. А яшчэ здаралася, што госць прыходзіу, калі хварэлі малыя дзеткі. Тут ужо і гаспадар і гаспадыня не адпускалі госця, пакуль дзеткі зусім не паздаравеюць, каб барані Бог ад іх хвароба не перакінулася у іншыя сем"і, да іншых дзяцей.

Бывала і такое, што пахаджай далікатна казау гаспадару: "Мне здаецца, што табе трэба наведаць свайго бацьку, бо не надта ён здаровы, паспяшайся". Вядома, і у тыя часы людзі пісалі лісты, але расказ чалавека, які пабывау у сям"і тваіх родных, шмат багацейшы, чым словы "жыу і здароу". Тут назі-

ральны чалавек зауважау тое, што сам чалавек не адкрые у лісце нават самаму блізкаму чалавеку. Ад пахаджая сын ці дачка маглі пачуць аб тым, што ім лепш да сябе забраць сваю матулю, а не жыць ёй у нявесткі.

Пахаджай ведау людзей, якія малявалі мугіры, ці вышывалі іх, хто пісау далавары /дуалары/, граматкі. Праз пахаджая можна смела было перадаць грошы родным за тое, што далавар напішуць, ну а калі грошы не даходзілі, то гэта азначала, што пахаджай недзе памёр. Пахаджаю давалі грошы, каб перадау іх як фітр /афітрэ/ у мячэць, або проста бедным мусульманам як закят.

Калі пахаджай заходзіу у горад, мястэчка ці вёску, дзе было некалькі мусульманскіх сямей, то ён быу госцем у кожнай сям"і. Ну а калі да чыёй-небудзь хаты не заходзіу, то той сям"і трэба было падумаць, чаму пахаджай іх абмінае.

Калі пахаджай выказвау катэгарычны намер пайсці з гэтага дому, а угаворы гаспадыні і гаспадара не дапамагалі, то давалі пахаджаю наказ, які быу і не такі ужо цяжкі для выканання: перадаць ліст знаёмым і родным /тут ужо пахаджай не хавау, куды пойдзе/, схадзіць і памаліцца за памерлых у мячэць, на мізар, перадаць грошы, салодычы для дзяцей, часам папрасіць прабачэння, калі гаспадары нечым пакрудзілі далёкіх татарау. Калі ж у татарына быу конь, то пахаджая падвозілі, а каб не выглядала, што пахаджая як нежаданага госця спраўаджвалі, то рабілі гэта тайна. Запрашалі пахаджая да сябе зноу у госці і казалі: "Каб нам і наступнага года прыждаць". Пры расставанні пахаджаю давалі нейкую суму грошау. На выпадак смерці яго было за што пахаваць. А яшчэ, як цяпер кажуць быу і такі аспект. Пакрыуджаны стары чалавек казау сваім: "Вось пайду у пахаджаі..." Тут ужо і боязна было родным, што пра іх пойдзе

слава". Трэба старога чалавека прасіць, каб ён не гневаўся і даравау крыўдзіцелям.

Думаю, што пахаджаі рабілі добрую справу, рабілі яе ціха, проста па-чалавечы.

Куба Хасяневічык.

## ПАСКОРЫМ ПАДРЫХТОЎКУ АРТЫКУЛАЎ ДЛЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА !

У чацвертым нумары "Байрама" за 1995 г. мяркуем надрукаваць наступныя энцыклапедычныя даведкі: АКА — супрацьстаянне над ракой Акой у 1480 г. маскавітаў і казанскіх татараў; АКІНДЭ — Салят ульь-аср — пасляпалудзенная малітва; АЛАВІЯ, Аліды — нашчадкі халіфа Алі; АЛЕКСАНДРОВІЧ Адам — імам Бруклінскай мячэці; АЛЕКСАНДРОВІЧ Айша — мастачка; АРКАН — пяць асноўных палажэнняў ісламу; АЎГУСТ ІІ — кароль Рэчы Паспалітай; АХІРА — аль-Ахіра — замагільны свет; АХШАН — Ахшам — малітва пасля заходу сонца; БАРСУК — жывёла; БЕЛЫ БАРАН — напаўязыцкі рытуал; БІДА — непажаданае наваўвядзенне; БІЧАВАННЕ — самабічаванне — пакута; БАСКАК — ханскі пракуратар; БРУКЛІНСКАЯ МЯЧЭЦЬ — джамія татараў-мусульман, якія паходзяць з літоўскіх татараў, жывуць у ЗША; ГАГАУЗЫ — цюркскі народ хрысціянскай веры; ДЗІДА — зімная зброя; ДЖАБРЫЛ, Джабрыіл, Гаўрыіл — архангел; ЖАЛОБА — рытуал пасля пахавання роднага, блізкага; ЗІПУН — зімовая вопратка; ІБРАГІМ — 14-я сура з Кур"ана; КАЗАКІН — верхняя вопратка; КІВЕР, ківор — вайсковы галаўны ўбор; КУКОЛЬ — пустазелле і лекавая расліна; ЛЕБЯДА — пустазелле; ЛІВІЯ — краіна; ПУСТАЛЬГА — драпежная птушка; СЯБАР — друг; ТАВАРЫШ — паплечнік; ТАРПАН — лясны невялікі конь; ТАШКЕНЦКАЯ МЯЧЭЦЬ — джамія ў Ташкенце; ЮСУФ — 12-я сура з Кур"ана.

Паважаныя чытачы ! Прымайце удзел у стварэнні нашай энцыклапедыі. Дасылайце артыкулы, прапановы.

## З КАРАІМСКАЙ МОВЫ

Пасля 1397 года, калі частка караімскага народа перасялілася у Вялікае Княства Літоускае, прайшло шмат часу і мова адзінага народа пад уплывам навакольнага насельніцтва, а затым і розных дзяржау паупльвала на тое, што паявіліся тры дыялекты — крымскі /кр. д./, трокскі ці тракайскі /тр. д./ і галіцка-валынскі ці галіцкі /гал. д./. Зразумелая для усіх караімау, гэтая мова мае свае адметнасці. Мы друкуем невялічкі слоунік караімскіх слоу, якія пачынаюцца на літары "А" і "Б". Чытачы "Байрама" знаёмыя са словамі крымскататарскай мовы, якія прадставіу крымскі татарын Ісмаіл Ісмаілавіч Неметау, і могуць параунаць іх з караімскімі словамі. Калі караімскае слова аднолькава гучыць у Крыме, Луцку і Тракаі, то мы даем толькі пераклад гэтага слова на беларускую мову, калі ж яно мае нейкія асабліпасці сярод караімскіх, то паказваем, з якога яно дыялекту.

алтын — золата
амбар /кр. д./ — свіран
араба, арба — доугі воз з драбінамі
аркан /гал. д./ — вяроука
ата — бацька, старэйшн, патрыярх
базар — штодзённы кірмаш
байбак, б а й б а х, б а й д а х /гал. д./ — нягоднік, агідны, у іншых цюркскіх мовах — сурок, тлусты і маларухомы чалавек
багьатыр — герой, мужны воін
баклава, п а х л а в а /кр. д./. печыва з мёдам і арэхамі
бакла /кр. д./ — боб, фасоля
балабан — вялікі, велізны

балта /кр. д., тр. д./ — сякера

балыкъ /кр.д./, б а л ы к /тр.д., гал. д./ — рыба

барс /тр.д./ — пантэра, тыгр, барс

бурсук — складка, маршчына

барыш /кр. д., тр. д./, дамова, згода, мір, спакой

бакча /кр. д., тр. д./, б а х ц а /гал. д./ — сад, агарод

баш /кр. д., тр. д./ — галава; вяршыня; правадыр; пачатак

башлык /кр. д./, б а ш л ы х /тр.д./ — шапка; галоўная справа; пачатак; галоўны

башур /кр.д., тр. д./, б а с у р м а /гал. д./ — пакланіцца да зямлі; прасіць, упрошваць. У рускіх гэтым словам называлі мусульман

башыбузук — разбойнік, бандыт

безъ /тр. д./ — егіпецкая тканіна, бязъ

безъмянь /тр. д./ — бязмен

бильмез — няўмека, нязнайка

бора /кр. д./ — бушаваць /пра моцны вецер/

боран /кр. д./ — бура, ураган; бунт, мяцеж.

Каб адчуць, як гучыць караімская фраза, мы адабралі некалькі караімскіх прыказак і прымавак, сабраных караімскім даследчыкам Ю.А. Палканавым /надрукаваны у МАТЕРИАЛАХ К СЕРИИ "НАРОДЫ И КУЛЬТУРЫ". Выпуск XIУ. Караимы. Книга I. Стр. 166-170/.

АЗ АШИМ, ТЫНЧ БАШЫМ. Хоць харчу мала, ды спакойней стала.

АЙРЫЛЫК ОЛЮМДЕН БЭТЭР. Разлука горш за смерць.

АЙРЫЛГЪНЛАРЫНЫ АЙУВ ЙЫЭР, БОЛИШЪЭНЛЭНИ БОРУ ЙИЭР. Тых, што разлучыліся — мядзведзь задзярэ, тых, што аддзяліліся — воук з"есць.

АКЫЛЛЫ ДУШМАН ХАМОР ДОСТТАН ЙЙИ ДЫР. Разумны вораг лепш за дурнога сябра.

АНАСЫНА БАК ТА, КУЗЫНЫ АЛ. Паглядз! на мац! ! сватай дачку.

АТ/НЫ/ БАРЛЫДАН, КЫЗ/НЫ/ ЙАРЛЫДАН. Каня /купляй/ у багатага, дзяучыну /бяры/ у беднага.

АШЫНА КОРЕ ИШИ БОЛЬЛИДИР. Як! пры ядзе, так! ! у працы.

БЕШ ПАРМАК ДА ТЕГИЗ ДУГУЛЬ. Пяць пальцау ! усе розныя.

БИР КОЛТЫХКА ЭКИ ХАРБУЗ СЫГМАЗ. Пад пахy два гарбузы не памесц!ш.

ГЕНДИН ДЕН ГАИРЫСЫН БЕГЕНМЕЗ ДЖАХИЛЬ. Дурному акрамя самаго сябе н!хто не падабаецца.

КЪАРТЛЫКТАН ИЛЯДЖ ЙОК. Ад старасц! лекау няма.

ЙАНЫЛМАН -- АЛЛАХ ДЫР. Не памыляецца адз!н Бог.

Падрыхтавала Г. Гаммал.

## КУРОРТНЫЯ МЯСЦ!НЫ Ў ТАТАРСТАНЕ

Татарстан багаты курортным! рэсурсам!. Ёсць радов!шчы сульфатных водаў з утрыманнем серавадароду да 325 мг/л — у раёне пас. Баулы, гарадоў Бак!рава, Бу!нск, Мензел!нск, Чыстапаль ! !нш. У шэрагу раёнаў выяўлены расолы высокай м!нерал!зацы!, як!я утрымл!ваюць ёд, бром, бор, радыеактыўныя элементы ! !нш. У 1958 г.шабл!зу ад Казан! адкрыты сульфатна-кальцыевыя воды. Значныя запасы лекавай граз! ў Блак!тным возеры ( за 12 км ад Казан! ). Дзейн!чаюць курорты !жзуск!я М!неральныя Воды ( Елабужск! раен ), Бак!рава ! Вал!льеўок!. Акрамя гэтага ёсць санаторы! "Казанск!" ( 500 месц ) для хворых на страўн!к ! парушэнне абмену рэчываў, "Л!вадыя" ( 450 месц ) для хворых на органы дыхання -- абодва ў Казан!, ! "Крутушка" ( у Высакагорск!м раёне, за 25 км ад Казан!; 450 месц ) для хворых на органы кровазвароту ! нервовай с!стэмы. Ёсць 8 санаторыяў для дарослых ! дзяцей, хворых на сухоты; 6 дамоў адпачынку. Шырока выкарыстоўваецца кумысалячэнне.

С.Слуцк!.

## А МОЖА ЁН БЫЎ БЕЛАРУСКІМ ТАТАРЫНАМ?

Спадзяемся, што і гэта знаходка Алеся зацікавіць нашых чытачоў. Назваў свой допіс "Загадкавы Абдула". З кнігі "Революционное движение в русской армии и восстание 1863 года", якая надрукавана ў Маскве ў 1964 г. ён напісаў для нас наступнае:
"Абдул Ібрагім-аглы, 34 гады. Раней служыў у Закаўказскім конным мусульманскім палку. У 1855 г. быў звольнены з войска, тады ж прыняў каталіцтва і атрымаў імя Уладзіслаў Аляксандр Касум-хан /па іншых звестках Касумхан/. Са студзеня па травень служыў у Люблінскай губерні. Быў звязаны з паўстанцамі. Прамы ўдзел Абдулы ў паўстанні следства не даказала, але ў жніўні 1863 г. вайскавы палявы суд ва Уладзіміры-Валынскім асудзіў яго да пазбаўлення ўсіх правоў і саслаў на жыхарства ў Табольскую губерню. Па хадайніцтву генерала-ад"ютанта князя Бебутава Абдула быў аднаўлены ў правах і накіраваны на жыхарства ў Яраслаўскую губерню пад нагляд паліцыі. У 1866 г. быў высланы ў Персію".

З гэтых звестак можна меркаваць, што Абдул сын Ібрагіма быў беларускі татарын, які трапіў на службу на Каўказ. Пасля заканчэння службы, каб вярнуцца на радзіму павінен быў прыняць хрысціянскую веру. На Каўказе, відаць, займаў нейкую важную пасаду, калі за яго хадайнічаў князь Бейбутаў /па прозвішчы, мабыць каўказец/. Калі ўзяць пад сумненне, што Абдула быў беларускім татарынам, то усё ж цікава, што мусульмане /былі/, удзельнічаў /хоць і ўскосна/ ў паўстанні 1863--1864 гадоў.

А. Варкоўскі.

## ВЕЧНАЕ МАСТАЦТВА — АРХІТЭКТУРА

Напрыканцы траўня 1995 г. у будынку "Белпраект" адбыўся ХУІ з"езд Саюзу архітэктараў Беларусі — людзей, якія займаюцца мастацтвам ствараць будынкі і збудаванні, а таксама іх комплексы... У гэтым годзе адзначаецца 60-годдзе утварэння Саюзу архітэктараў Беларусі, які вырас з невялікай групы спецыялістаў да вялізнай добраахвотнай грамадскай творчай арганізацыі архітэктараў рэспублікі, членамі якой з"яўляюцца больш за І тысячу прафесіяналаў.

Перыяд паміж 1991—1995 гадамі быў пераходным у жыцці Саюзу архітэктараў, абумоўлены глыбокімі зменамі ў грамадстве, пераходам эканомікі нашай дзяржавы на рыначныя адносіны і звязаныя з гэтымі цяжкасцямі, крызіснымі з"явамі ў будаўніцтве і архітэктуры. Аднак у гэты перыяд ёсць немалыя творчыя набыткі, сярод якіх стварэнне творчых персанальных майстэрняў. Такімі праектнымі калектывамі кіруюць найбольш дзейныя і актыўныя людзі. Праца такіх калектываў складае сур"ёзную канкурэнцыю дзяржаўным праектным арганізацыям. Гэта паказаў праведзены Саюзам архітэктараў у 1994 г. Беларускі агляд-конкурс персанальных творчых майстэрняў, характэрнай рысай якога з"явіўся высокі узровень большасці прадстаўленых работ. Актывізацыі творчых пошукаў архітэктараў садзейнічалі арганізаваныя праўленнем Саюзу міжнародныя агляды, конкурсы лепшых твораў архітэктуры краін СНД — праектаў і пабудоў. Яны садзейнічалі абмену вопытам, абагачэнню новымі творчымі ідэямі. Годна выступілі на аглядах многія беларускія архітэктары. Малады архітэктар Фархад Мулладзіханаў /татарын/ выйграў некалькі міжнародных конкурсаў, Раміль Маскоў быў адзначаны як выдатны спецыяліст па інтэр"ерах.

У рабоце з"езда бралі удзел прадстаунікі многіх былых рэспублік, былі прачытаны прывітальныя тэлеграмы відных архітэктарау свету, дзяржауных устаноу і палітычных дзеячау. Са справаздачным дакладам выступіу член праулення Саюзу архітэктарау Беларусі Яуген Міхайлавіч Кавалеускі. Абмяркоувалася на з"ездзе, між іншымі, работа Дома архітэктарау, удзел беларускіх архітэктарау у рабоце Міжнароднай Асацыяцыі Саюзу Архітэктарау /МАСА/. У верасні 1994 г. у Менску адбыуся Каардынацыйны Савет Міжнароднай Асацыяцыі Саюзау Архітэктарау, на якім прэзідэнтам МАСА на чарговы тэрмін абраны старшыня праулення СА Беларусі Я.М. Кавалеускі. Напрыканцы 1994 г. вышау першы нумар часопіса МАСА — "Архітэктура, будауніцтва, дызайн", значная частка публікацый прысвечана беларускай архітэктуры.

На з"ездзе было адзначана, што добра працуе Беларуская Асацыяцыя студэнтау-архітэктарау, створаная з дапамогай Саюзу Архітэктарау Беларусі, шмат зрабіу Савет Ветэранау Архітэктарау Беларусі.

У высновах работы з"езда між іншым было адзначана: 700 бібліятэк зачынена. Рэзка знізіліся тэмпы будауніцтва жылля. Наступае духоуна-маральны крызіс. У кіроуных органах Беларусі няма людзей з архітэктурнай адукацыяй, а значыць няма тых, хто разумее задачы і патрэбы архітэктарау. Патрэбна стварыць умовы для нармальнага навучання студэнтау-архітэктарау і забяспечыць ім мінімум сродкау для існавання і навучання. Трэба устанавіць сапрауды надзейны кантакт паміж навучальнымі установамі і адпаведнымі міністэрствамі. Трэба знайсці сродкі для выдання неабходнай архітэктарам друкаванай прадукцыі — кніг, часопісау, газет.

Неабходна па-сапрауднаму ацэньваць работу архітэктарау

бо толькі неразумныя заказчыкі імкнуцца заашчаджваць грошы на гэтым этапе.

Мы, архітэктары, паводле сваёй прафесіі пакідаем на планеце Зямля вынікі сваёй працы. Гэта вельмі ганарова, але і вельмі адказна. І у гэтым упэунены архітэктары усіх краін свету. Дык скажам яшчэ раз: не можа існаваць архітэктура без яе стваральнікау-архітэктарау. Зробім усё для таго, каб выжыць, каб не умерла мастацтва архітэктуры, бо архітэктура -- прафесія аптымістау.

Сююмбіке Ташкенцкая.

У рэдакцыю "Байрама" пішуць нам дарослыя і вучні. Сярод іншых было пытанне і аб тым, як стаць архітэктарам. Мы звярнуліся да Сююмбіке Ташкенцкай, татаркі, члена Саюзу Архітэктарау Беларусі, якая скончыла Маскоускі інстытут архітэктуры, каб яна адказала на гэтае пытанне. Сказала яна прыкладна так: "У дзяцінстве кожная дзяучынка і кожны хлопчык з"яуляецца архітэктарам і будаунікам. Будуе дзіця з пяску у пясочніцы на падворку, пасля з кубікау у сябе дома і у дзіцячым садку. Будучаму архітэктару трэба умець маляваць, але сапрауды добра не кожнаму удаецца. Для тых, хто падае атэстат сталасці на факультэт архітэктуры трэба вытрымаць экзамен па матэматыцы, фізіцы і рысунку. Трэба для архітэктара ведаць матэматыку і фізіку як інжынеру, а мастацкі густ і уменне рысаваць вельмі неабходна паводле прафесіі. І вось яшчэ што: у грамадстве дауно устанавіліся патрабаванні да таго, якіх спецыялістау колькі трэба для нармальнага існавання. Астраномау, напрыклад, можа трэба адзін на сто тысяч чалавек, дактарау /урачоу/ — адзін на 150--200 чалавек, настаунікау — адзін на сто чалавек, а архітэктарау -- адзін на дзве тысячы, хоць не дрэнна было б, каб адзін архітэктар прыпадау на адну тысячу людзей,

але наша эканоміка цяпер пакуль што не дазваляе нам такую раскошу. Кожнаму вядома, што добры гарнітур на чалавеку прыемна глядзіцца, калі пашыты добрым краўцом менавіта па фігуры заказчыка. Але вельмі многія людзі не маюць сродкаў, каб пашыць сабе адзенне ў свайго краўца і купляюць таму гатовае адзенне. Так і з архітэктурай будынка. Каб удзешавіць будаўніцтва не распрацоўваюць для кожнага праекта адпаведныя дакументы, а будуюць па тыпавых, шматтыражных дакументах, ды стаяць такія дамы побач. Наколькі ж танней такое тыпавое будаўніцтва? Вельмі нямнога танней, дык робіцца гэта найчасцей ад дурноты эканамістаў, а галоўным чынам ад дурноты тых, хто кіруе эканамістамі.

Бываюць выпадкі, асабліва цяпер, калі чалавек з дзяцінства марыў стаць архітэктарам, вучыўся, рысаваць, чарціць, рахаваць. Скончыў вучобу, а па цяперашніх часах не можа уладкавацца на працу па спецыяльнасці. Што рабіць? Работа знойдзецца. Ёсць выпадкі, што архітэктар па адукацыі добра працуе настаўнікам рысавання і чарчэння ў школе і іншай навучальнай установе, дзе ёсць у праграме навучання рысаванне і чарчэнне. Вялікі аб"ём матэматычных навук, які вывучаецца студэнтам-архітэктарам дае магчымасць яму смела брацца за выкладанне ў школе матэматычных прадметаў. Не вельмі цяжка перавучыцца архітэктару на пасаду інжынера-будаўніка. Не прападзе архітэктар і ў тым выпадку, калі займецца бізнесам у сферы будаўніцтва. Архітэктар -- гэта чалавек, які павінен абдумаць і спланаваць будынак ад фундамета да столі і даху. А галоўнае, гэта пачынаючаму жыццё трэба рыхтавацца да горшага, а спадзявацца на лепшае. І яшчэ ёсць адна сфера, дзе патрэбна мець адукацыю архітэктара -- гэта журналістыка. Апісанні пейзажа, гарадскіх вуліц, ансамбляў, выставак, работ будаўнікоў у такога журналіста не будзе грашыць на памылкі.

## ВЕРШЫ БРАНІСЛАВЫ ЛАПКОЎСКАЙ

### Зямліца, святая мая

Ветрамі спавіта,
Даждамі абмыта,
Зямелька, зямліца,
Святая мая!
Прайдуся я сёння па любых мясцінах,
Дзе дрэвы уздымаліся ўвысь.
Тут груша старая мне казкі шаптала,
Буслоў сустракала,
Тут родная хатка стаяла калісь.
Заплюшчу я вочы і бачу: ля млына
Расце зноў каліна,
Кувае зязюля,крынічка срабрыцца
Кудысці вадзіца бяжыць.
На могілках дрэвы
Шумяць века векам
Над тымі крыжамі,
Што леглі на дол,
А помнікі продкаў
Маўчаць усе радком.
Ветрамі спавіта,
Даждамі абмыта,
Зямелька, зямліца,
Святая мая!

### Кросны

Гарэла лямпа, а мо газоўка
На каміночку ўгары.
Матуля прала кудзелiцу,
Нібы з казлінай барады.
Ніткі звівала,
Кросны снавала,
Узор выткала
З пеўнямі ў рады.
Ткаліся кросны аж да світанку,
Пеўні спявалі за сцяной,
А з-пад маміных рук месяц узыходзіў,
Галінкі,кветкі, травы з расой.

Матулін бялюткі ручнік дастану,
На дзіуны узор пагляджу,
Маміным ручанькам пакланюся,
Зноуку у шафу ручнік пакладу.
Хай застанецца памяць аб веку
Дзеля нашчадкау маіх.
Памяць аб здольнасці, працы, цярпенні
Продкау маіх дарагіх.

/Прысвячаецца маёй матулі і цётцы Зосі./

## Мама сустракае раніцу

Дзіуна раніца спіць
Туманамі ахутана.
Ціха спіць наваколле усё.
Мама раніцу будзіць
Нясмелымі ціхімі крокамі
І скрыпам старэнькіх дзвярэй.
Апускае у студню
На жэрдцы вядзерца.
Спатыкаецца у зрубе яно
І паціху нырае на дно.
З-пад павеці яна
Выбірае сухія паленцы,
Каб яечня у печы пяклася хутчэй.
Ціха дзверы штурхае,
Заходзіць у сенцы,
На руках нясе дровы,
Як маленькіх дзяцей.
Выганяе на пашу кароуку,
Адчыняе курэй.
І вось ужо у печы агонь завіхаецца:
Прачнуліся дровы у печы глухой.

Радкі прысвячаю роднай маме маёй.

Алесь Станкевіч

## АЗОЎСКАЯ КІРЛЯ

Смарагдавыя хвалі
Азоў на бераг каціць,
над хвалямі самотна
кірля аб нечым плачыць.
Пра што яе жалоба?
Аб чым яна так трызьніць?
Хіба пра тых, хто бераг
Літвы сваёй айчынай...
Пра мужных тых ардынцаў,
што разам з Тахтамышам
аселі ў ліцьвінаў
пад Вітаўтавым крыжам.
Хай шэсьць вякоў пражылі
сярод майго народу -
ды годнасьць не згубілі,
шануючы Свабоду...

А можа яе трызна
пра той сорак чацьвёрты,
калі дэпартаваных
з бацькоўскае зямлі
праваадным загадам,
бяз дай на то прычыны,
у хвалі на пакуты
жывымі аддалі...
Ды сёньня зноўку сонца
на гэты бераг сьвеціць.
вяртаюцца нашчадкі
з далёкай чужыны,
і колеру ісламу
Азоў іх хваляй клічa,
вітаюць тры бярозкі
з маёй Беларусі.

Жнівень - 95. Арабацкая стрэлка

## МОСЬКАНЫ БАРАН /байка/

Адзін стары Баран
крылоўскай пазайздросьціў Мосьцы,
бо надта прагнуў
вылучыцца ў сьвет
  Няхай няма Слана,
  прыдумаў спосаб просты —
  пачаў вучыць Быка,
  каб вёў сябе як сьлед.
"Ня там раней стаяў,
Мой голас як у нашых-млосны...
ды й статак лепш за ўсё
Ідзе за Бараном..."

Ды статак не зважаў,
Баран хоць і стары — адно баран
І шлях ён добра ведае...
на бойню.
  А Бык — ён волат,
  ці яму на кожную з рагамі
  набрыдзь
  зьвяртаць увагу?
  Хай кажуць сваё "бе-е".
Але, браткі
пара ужо й нам
прыглядзіцца к падобным
Баранам.

---

Станкевіч Алесь, беларус, нарадзіўся у Магілёве у 1947 г. Маёр запасу, старшыня Патрыятычнага руху БЗВ, выкладчык спецпадрыхтоўкі у Менскай СШ 104.

У ліпені 1995 г. на Арабацкай стрэлцы пазнаёміўся з татарынам — актыўным удзельнікам нацыянальнага руху. Ён распавёў Алею пра трагедыю 1944 года, калі чэкісты у Азоўскім моры у баржы, патапілі пастухоў — крымскіх татараў.

# КРЫМСКАТАТАРСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК.
## І500 СЛОЎ І СЛОВАЗЛУЧЭННЯЎ АД ДЗЯДЗЬКІ ІСМАІЛА МЕМЕТАВА

| Крымскататарскае слова | Беларускае слова |
|---|---|
| И | |
| Иблис | шайтан, д"ябал, чорт |
| ибрет | павучальны прыклад |
| идаре | праўленне |
| иджра | выкананне |
| иджра олды | ажыццяўленне |
| иджра этмек | выконваць, выкананне |
| изин | дазвол |
| излемекъ | след, сачыць |
| иклим | клімат |
| икяе | расказ |
| илери | перадавы, уперад |
| иле | з |
| илим | навука |
| илим багъчеси | галіна навукі |
| илими, илимли | навуковы, вучоны, адукаваны |
| илле | аднак |
| ильчек | пятля |
| илямур | ліпа |
| илян | абвестка, аб"ява |
| иляхре | і гэтак далей |
| имасджи | абаронца |
| имкян | магчымасць |
| инат | упарты |
| инанмакъ | верыць |
| индемек | маўчаць |
| индже | тонкі |
| инджи | перлы, жэмчуг |
| ине | іголка |
| инженер | інжынер |
| инкъилаб | рэвалюцыя |
| инкишаф | развіццё |
| инкяр | адмова, адказ |
| инсаф | сумленне |
| инсанынъ асыры | век чалавечы |

| | |
|---|---|
| институт | Інстытут |
| интизам | парадак, дысцыпліна |
| инша | Ізлажэнне, сачыненне |
| иншаат | збудаванне |
| ип | вяроўка, ніткі |
| ираде | воля |
| ираделн | валявы |
| иракъ | аддалены |
| ири | буйны, вялікі |
| иримек | растае |
| исар | каменная /мураваная/ агародка |
| исбат | пацвярджэнне |
| искеми | лава, скамейка, зэдлік |
| искеле | прыстань |
| истемек | прасіць, папрасіць, захацець, пажадаць, патрабаваць |
| истидат | талент |
| итбурун | шыпшына |
| итибар | павага, аўтарытэт |
| ифаде | тлумачэнне, выражэнне |
| ифрит | злы дух, пачвара |
| ифтира | нагавор, паклёп |
| ихтисас | спецыяльнасць |
| ич бир вакъыт | ніколі |
| ич бир тюрлю | ніякі |
| ич бир шей | нічога |
| ичинде | унутры, у нечым |
| ичинден | цераз, унутры |
| ички | унутраны |
| ичмек | піць, выпіць |
| ичтимаий | грамадскі |
| иш | работа, праца |
| ишанмак | спадзявацца |
| ишарет | знак, адзнака, сігнал |
| ишджи | работнік, рабочы |
| ишитмек, ишитем | пачуць, чую |
| ишлемек | працаваць |
| ишарет этмек | адзначыць |
| иштирак | удзел |
| иштирак этмек | удзельнічаць |

| | |
|---|---|
| иштракчи | установа |
| ишхане | прадпрыемства |

Й

| | |
|---|---|
| йигит | дзяцюк, хлапец, джыгіт |
| йигитлик | зухаватасць, смеласць |
| йигирми | дваццаць |
| йипекчилик | шаўкаводства |
| йыл | год |
| йыл-йылдан | год ад году |
| йылбаш | Новы год |
| йылгъа | лагчына, лог, роў, аўраг |
| йылдан-йылга | год ад году |
| йылденюмчи | гадавіна, угодкі |
| йылкъы | табун |
| йылкъыджы | табуншчык |
| йылкъылмакъ | зваліцца, упасці |
| йымырта | яйкі |
| йыр | песня, сказанне, паданне |
| йырламакъ | пець, спяваць |
| йырджы | спявак, спявачка |
| йыртыджы | драпежнік, драпежны |

К

| | |
|---|---|
| кадя | малодшы брат |
| канар | камар |
| картана | бабуля |
| кафе | кавярня, кафе |
| квартал | квартал |
| кебен | стог |
| кевде | тулава |
| кедай | народны паэт |
| кедер | смутак, журба |
| кезинти | шпацыр, прагулка |
| кейф | настрой, самапачуванне, асалода |
| келе | прыходзіць |
| келендек, келеджекте | будучы |
| келин | нявестка |
| келише | адпавядаць, паходзіць |
| кельмек | прыйсці, надыйсці, з"явіцца |

| | |
|---|---|
| кенар | старана, бок |
| кенъ | шырока, шырокі |
| кендже бала | апошняе дзіця, пястун |
| кениш | шырокі, прасторны |
| керван | караван |
| керек | трэба |
| керекли | патрэбен |
| кёресте | лес будаунічы, бярвенне |
| кериге | назад |
| кермен | крапасць |
| керчек | праўда, сапраўды |
| кесертки | яшчарка |
| кесишме | скрыжаванне /дарог, вуліц/ |
| кескин | востры, рэзкі |
| кесментик | каржакаваты |
| кестане | каштан |
| кетен оты | палатно |
| кетен | лён |
| кетирмек | несці, прынесці, правесці |
| кетмек | ехаць, паехаць, ісці, пайсці |
| кеч | позна |
| кечен, кечкен | мінулы |
| кечит | пераход |
| кечмек | прайсці, прахадзіць |
| кёр сичан | крот |
| киев | жаніх, зяць |
| кийтик эрик | алыча |
| килер | каморка, бакоўка, чулан |
| килим | дыван /кавёр/ |
| килит | замок |
| километр | кілометр |
| ким | хто |
| ким-иле | з кім |
| кимни | чый, чыё |
| кимсе | ніхто |
| керамет | кераміка, чарапіца |
| киргин | смелы, бойкі |
| кирмек | зайсці, увайсці |
| кирмек мумкюн дегиль | нельга уваходзіць |
| кириш | уваход |

| | |
|---|---|
| киров ясакътыр | увахед забаронены |
| кичкене | малы |
| китаб, китап | кніга |
| китаплар | кнігі |
| китапхане | бібліятэка |
| киши | чалавек |
| кобете | пірог |
| коз | вока |
| коз-яш | сляза |
| козенек | клетка |
| козьлюк | акуляры |
| кой | вёска, сяло |
| койли | сельскі, сялянскі |
| кок | неба, сіні, блакітны, шэры |
| кок тотай | валошка, васілёк |
| кокус | грудзі |
| кокуш | індык |
| колхоз | калгас |
| колхозджи | калгаснік |
| колхозныкъ | калгасны |
| комбинат | камбінат |
| комиссия | камісія |
| комитет | камітэт |
| коммунист | камуніст |
| коммунистик | камуністычны |
| копек | сабака |
| коплик | большасць |
| копур | мост |
| копчек | круг, кола |
| корелер | бачыць |
| корем | бачу |
| коремек | заўважыць, ўвідзець, відзець |
| коремиз | бачым |
| корюне | бачна, відаць |
| корюшув | сустрэча |
| котерильмек | узняцца |
| котерикле | узнімацца, павышэнне |
| котермек | падняць |
| косе | безбароды |

| | |
|---|---|
| костериңиз | пакажыце |
| костермек | паказаць, паказваць, адказваць |
| кочер | вось |
| ксев | галоука |
| кубре | угнаенне |
| кубу чечек | лотаць, калужніца |
| кузгю | люстэрка |
| кузь | восень |
| кульмек | усміхацца, смяяцца |
| кулюнчли | смешны |
| кумуш | рубель, серабро |
| кунайлан | сланечнік |
| кундзюз | удзень |
| кунеш | сонца |
| кунешчик | сонейка |
| кунь | дзень |
| кунь-куньден | дзень за днём |
| куньде | штодзень |
| куньден-куньге | дзень за днём |
| курек | лапата |
| куреш | барацьба |
| курешмек | спаборніцтва, змагацца |
| курре | Зямны Шар |
| курси | стол |
| курсю | табурэтка |
| куртюк | гурба |
| кустюм оту | мімоза |
| кучюк | маленькі |
| кягьыт | папера |
| кяинат | усяленная, космас |
| кятип | пісар, сакратар |

## "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ"

/Слоунік — назвы артыкулау, якія мяркуем скласці і надрукаваць у энцыклапедычным даведніку, названым у загалоуку/

Складзены слоунік на падставе даведнікау і манаграфічнай літаратуры. Пасля слова ці групы слоу, якія абазначаюць з"яву, падзею, прадмет, імя чалавека /прозвішча/, нярэдка у слоуніку пазначаны вялікімі літарамі і лічбамі дадатковая інфармацыя. Літары — імя ці імёны аутарау манаграфій, а лічба — нумар старонкі у кнізе, дзе пра энцыклапедычны артыкул ёсць некаторыя звесткі.

БД — Пётр Бараускі і Аляксандр Дубінські. "Польскія татары. Гісторыя, абрады, легенды, традыцыі", 1986;

ЯТ — Ян Тышкевіч, "Татары у Літве і Польшчы", 1989;

АМ — Алі Міськевіч. "Польскія татары 1918—1939", 1989;

Г — Зыгмунт Глогер. "Старапольская ілюстраваная энцыклапедыя". Т. 1—4, 1959.

Паважаны чытач! У надрукаваным тут слоуніку будучых артыкулау, якія пачынаюцца на літары "Т" і "У" /у папярэдніх выпусках "Байрама" і у наступных будуць надрукаваны назвы усіх артыкулау/, вядома, могуць быць пропускі. Дасылайце свае прапановы, а яшчэ лепш — завершаныя артыкулы, а таксама палепшаныя Вамі артыкулы, якія ужо былі некім напісаны і друкаваліся у "Байраме" як пробныя.

### Т

Т, літара
ТА, назва літары, якая азначае "Т" мяккае
ТА, назва літары, якая азначае "Т" цвёрдае
ТААТ — падпарадкаванне Аллагу
ТАБАРЭК ал-АЗІ, малітва на мізары у час пахарон, БД 195
ТАБІБ, лекар
ТАБУН, Г, Т. 4 352
ТАБУТ, тапчан, на які кладуць памерлага, БД 176, 260
ТАВАККУЛ
ТАВАФ, сямігразовы абход Каабы пілігрымамі
ТАГГР, нейкі напітак
ТАГАРЭТ, т а х а р э т, рытуальная чысціня.

# ПРОБНЫЯ АРТЫКУЛЫ ДЛЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ"

## /І усё тое, што іх цікавіць/

АБАЙ КУНАНБАЕЎ /22.8.1845, Чынгістаўскі раён, цяпер Абаеўскі раён Сяміпалацінскай вобл. — 19.7.1904/, казахскі паэт-асветнік, родапачынальнік новай пісьмовай казахскай літаратуры. Нарадзіўся ў сям"і буйнога феадала Кунанбая Аскенбаева. Спадзеючыся выхаваць сына сабе на замену, бацька паслаў яго у Сяміпалацінск у медрэсе муллы Ахмет-Рызы. Адначасова Абай наведваў рускую школу. Па волі бацькі ён павінен быў удзельнічаць у міжродавых звадах. Абай шмат чытаў, вывучаў усходнія мовы /арабскую, персідскую/. Гуманістычныя погляды Фірдаусі, Наваі, Нізамі, Авіцэны і інш. аказалі уплыў на яго светапогляд. Ён добра ведаў фальклор казахскага народа і шырока выкарыстоўваў яго ў сваёй творчасці.

У Сяміпалацінску Абай пазнаёміўся са ссыльнымі рускімі рэвалюцыянерамі 70-х гадоў. Новыя сябры часта бывалі ў яго у гасцях у ауле, знаёмілі Абая з творамі рускіх паэтаў і празаікаў. Пазней Абай пазнаёміўся з творамі старажытнагрэчаскіх філосафаў. На 35-м годзе жыцця Алай усур"ёз заняўся любімай працай — паэзіяй. Першыя яго вершы людзі завучвалі на памяць, перадавалі з вуснаў у вусны. Пазней былі складзены спіси яго твораў /запісы Мурсента Бекіна/. Імя Абая стала самым папулярным у казахскім стэпе. Ён не толькі складаў вершы, але і перакладаў на казахскую мову сваіх любімых паэтаў — А.С. Пушкіна, І.А. Крылова і М.Ю. Лермантава. Яго цудоўныя пераклады да гэтай пары застаюцца найлепшымі ў казахскай паэзіі.

Вершы Абая, які жыў сярод працоўнага люду, звалі да барацьбы за вызваленне ад прыгнёту, цемры. Вывучаючы спадчыну рускіх і заходнееўрапейскіх класікаў ён яшчэ больш пераконваўся у неабходнасці суровай крытыкі акаляючага жыцця і супроцьстаўлення цемры вялікай сілы чалавечых ведаў, перадавой дэмакратычнай культуры. Ён высмейваў шкодныя звычаі аула, цемрашальства, пратэставаў супроць рабскага стану жанчыны, бічаваў лоўкіх аканомаў, хітрых біеў. У сатырычных вершах "Нарэшце, валасным я стаў..." /1889/, "Аканом начальсву рады..." /1889/, "Кулембаю" /1888/ Абай адкрыта выступаў супроць сацыяльнага зла. Ён верыў, што жыццё можа палепшыцца, калі ў людзей памяняюцца адносіны да працы, разумеў дабратворную ролю вольнай

працы. На думку паэта, шчасце — "гэта толькі нераздучныя розум і праца". Абай выступаў старонікам сапраўднага, мастацтва, якое выхоўвае і ўзвышае народ, у якім спалучаецца "майстэрства і праўда". У цэнтры творчасці Абая стаіць чалавек у яго грамадскім жыцці, практыцы.

У гісторыі казахскай літаратуры Абай застаецца неперэўзыйдзеным майстрам верша. Ён увёў шэраг новых формаў /шасцірадкоўі, васьмірадкоўі/ і ўзбагаціў казахскую паэзію новым зместам. Цыкл яго вершаў, прысвечаных чатыром порам года /"Вясна", "Лета", "Восень", "Зіма"/, вершы пра прызначэнне паэзіі — усё гэта было новым у казахскай літаратуры. Абай пакінуў цудоўныя узоры лірыкі. Яго вершы — "З часу выпадае міг", 1896/, "На сорак лапікаў тугою..." /1899/, "Ці не павінен я, мёртвы, глінаю стаць..." /1898/, "На вадзе, як човен, месяц..." /1888/, "Калі стане доўгі цень" /1900/ і інш. — прыклады высокапаэтычнага майстэрства. Абай склаў некалькі паэм /"Масгуд", "Сказанне пра Азім", "Іскандэр"/. Паэма пра Іскандэра прысвечана Аляксандру Македонскаму. Паэт асуджае прагавітасць заваёўніка і супрацьстаўляе яму розуму асобе Арыстотэля. Сюжэты паэм "Масгуд" /1887/, "Сказанне пра Азіма" пабудаваны на арыгінальна перапрацаваных сюжэтах усходняй класічнай літаратуры". У напісаных прозаю "Павучаннях" закрануты гістарычныя, педагагічныя і прававыя тэмы; лаканізм, мастацкая паўната і глыбіня думак — такія асаблівасці гэтых твораў.

Абай быў таленавітым кампазітарам. Многія свае лірычныя вершы ён пераклаў на музыку для шырокага распаўсюджвання. Яго творы выданы на казахскай мове і перакладзены на многія мовы іншых народаў. І. Дзюсенбаеў.

АНАМ, А л ь  А н а м, 6-я сура з Кур"ана. Складаецца з 166 аятаў. Названа ад слова ў 137 аяце і абазначае б ы д л а, с к а ц і н а. Гэта адна з апошніх мекканскіх сур, паходзіць з часу блізкага да перасялення мусульман з Меккі да Медыны. Паводле думкі некаторых каментатараў Кур"ана частка суры можа належыць да мядынскага перыяду. У гэтай суры сказана што Аллаг адзін і адзіны і Ён з"яўляецца Першапрычынай усяго, што існуе на небе і на зямлі. Аллаг не можа быць зразуметы і вызначаны людскімі катэгорыямі /паняццямі/, а усе спробы персаніфікацыі вядуць да скажэння і забабонаў, да язычніцтва /паганства/ і многабожжа. Адсюль даволі частыя алюзіі да хрыс-

ціянскага догмату аб боскасці Іса /Ісуса Хрыста/, як спрэчнага з асноуным догматам Ісламу абсалютнага, непадзельнага монатэізму. Ю. Бяляускі.

АРАФ, Аль Араф, 7-я сура з Кур"ана. Складаецца з 207 аятау. Некаторыя каментатары Кур"ана назву суры пакідаюць без перакладу, трактуючы яе як імя уласнае, іншыя лічаць магчымым гэта слова перакласці як перашкоды. Лічаць, што гэта сура была паслана Мухаммеду у канцы мекканскага перыяду, нават у апошні год перад перасяленнем мусульман з Меккі у Медыну. Праблемы, якія вырашаюцца у гэтай суры, вельмі складаныя, але дамінуе у ёй матыу "супраціуленння Аллагу і Яго знаменням", пачынаючы ад шайтана-Ібліса, праз супраціуленне прарокам — Нугу, Гуду, Саліgу, Луту, Шуайбу; гісторыя Мусы /Майсея/, фараона і пазнейшая гісторыя габраяу; згадваецца апошні час, які прыходзіць да людзей неспадзявана. У суры шмат разоу паутараецца мусульманская формула пра адзінства і адзінасць Аллага, што вельмі часта сцвярджаецца у мекканскіх сурах, бо мекканскі перыяд быу перыядам фарміравання рэлігійнай дактрыны Ісламу.

Ю. Бяляускі.

АСІНА, таполя дрыжачая /Populus tremula/.
Лістападнае двухдомнае дрэва сямейства вярбовых. Паводле слоуніка Шыпавай слова асіна перскага паходжання. Карнявая сістэма дрэва магутная, але прыпаверхневая. Ствол цыліндрычны, шарават-зялёны, вышынёй 25—30 м. Лісце круглаватае, шорсткае, зубчастае, на доугіх сціснутых чаранках, ад гэтага дрыжыць нават пры слабым ветры. Насенне дробнае, разносіцца ветрам на далёкую адлегласць. Цвіце у красавіку да распускания лісця. Расце асіна у лясах Еуропы і Азіі разам з елкай і хвояй. Жыве да 150 гадоу. Асіннікі на Беларусі складаюць больш за 3,5 % усёй плошчы, занятай лясамі. Асноуныя масівы асіннікау: кіслічны, сніткавы, прыручайнатравяны і чарнічны. Драуніна асіны белая, мяккая, добра апрацоуваецца, але няустойлівая да стрыжнёвай гнілі; ідзе на выраб запалак, цэлюлозы, бандарнай клёпкі, цацак. П. Пятроускі.

АСМАНСКА-ТУРЭЦКІ УПЛЫУ НА МУСУЛЬМАНСКУЮ ТЭРМІНАЛОГІЮ. Час і шляхі уздзеяння асманска-турэцкай мовы на мусульманскую тэрміналогію, якая зберагласся у Хамаілах і Аль-Кітабах, даследчыкамі пакуль што не вывучаны. Мяркуюць, што літоускія татары,

якія служылі талмачамі /перакладчыкамі/ паміж адміністрацыяй Вялікага Княства Літоускага і Кароны /Польшчы/ з Крымскім ханствам і Турцыяй падпалі пад уплыу асманскай мовы і перанеслі гэты уплыу на мусульманскую арабскую тэрміналогію. Ёсць таксама меркаванне, што даволі часты прыезд па дзяржауных справах, пражыванне, нават пасяленне крымскіх татарау у ВКЛ з цягам часу пауплывала на тутэйшых татарау, ацюрэчванне арабскай мусульманскай тэрміналогіі.

Для прыкладу можна прывесці такія ацюрачаныя арабскія словы: рэджэб у беларускіх татарау і туркау-асманау /араб. раджаб/ — "назва аднаго з месяцау", Мэр"ём, у асм.-тур. ідэнтычна /араб. Мар"йам/ — імя уласнае, джэгеннэм, у асм.-тур. ідэнтычна /араб. джаганам/ — "пекла", шэйтан, у асм.-тур. ідэнтычна /араб. шайтан/ — "шатан", "сатана"; шэйх, у асм.-тур. ідэнтычна /араб. шайх/ — "стары, начальнік", рэсюль, у асм.-тур. рэсуль /араб. расул/ — "пасланнік, прарок", селям, у асм.-тур. сэлям /араб. салям/ — "мір". Як бачна з названых прыкладау, тут можна заувалыць фанетычнае правіла пераходу кароткіх галосных задняга раду у шэраг галосных пярэдніх. Падобна як у асманска-турэцкім кароткі змычны гук "т", які у арабскай мове як праувіла апускаецца /не вымауляецца/, у татарскай мове не знікае. Прыклады: аманэт, у асм.-тур. шэрбэт /араб. шарба/ — "напітак", шэрыят, у асм.-тур. ідэнтычна /араб. шарыа/, уммет, у асм.-тур. іуммэт /араб. умма/ — "джамія, мусульманскі прыход, парафія". Некаторыя арабскія назвы аднаскладовыя таксама пад уплывам асманска-турэцкай мовы атрымліваюць у Хамаілах і Аль-Кітабах двухскладовасць. Прыклады: Бэкір, у асм.-тур. ідэнтычна /араб. Бакр/ — "імя уласнае", Місір, у асм.-тур. Мысыр /араб. Міср/ — "Егіпет".

Іу /накшталт нямецкага у-умляут/ пераходзіць у мове нашых татарау у галоснае "э". Можна тут падаць наступныя прыклады: гусэль, у асм.-тур. гусіуль — "абмыванне", мусульманін, у асм.-тур. міусліуман — "мусульманін", рукеі, у асм.-тур. ріукіу — "пастава у час малітвы". Пэуная частка татарскай мовы захавалася з запазычанняу непасрэдна з асм.-тур. мовы. Называем тут некаторыя прыклады: байрям — "свята", батман — "мера вагі", кол — "рука", куш — "птушка", кушлук — пад падудзень", кыз — "дзяучына", табут — "насілкі, мары, на якіх нясуць памерлага".       П. Бараускі, А. Дубіньскі.

АХОВА ПРЫРОДЫ, аховы жывёл, раслінасці і прыродных рэчываў. Аллаг даў чалавеку ўладу над шматлікімі Божымі стварэннямі і правам карыстацца імі. Але гэта не абазначае, што Аллаг даў чалавеку неабмежаваную свабоду ў гэтым. Іслам вучыць, што чалавек не павінен падвяргаць жывёл і расліны небяспецы і здзекавацца над імі. Карыстаючыся імі ў сваіх мэтах, ён павінен асцерагацца і не прыносіць ім крыўду. Напрыклад, Іслам дазваляе забіваць жывёл для прыгатавання страў, але забаронена забіваць жывёл дзеля забавы ці спорту. Для таго, каб карыстацца мясам, існуе пэўнае правіла забоя жывёлы. Іслам дазваляе забіваць небяспечных жывёл толькі таму, што чалавечае жыццё цэніцца даражэй. Але пры пазбаўленні жыцця драпежніка не дазваляецца забіваць яго доўгай і пакутлівай смерцю. Жывёл, якіх чалавек выкарыстоўвае для перавозкі грузаў, для перавозкі людзей Іслам забараняе трымаць галоднымі, мучыць і перагружваць працай. Лічыцца агідным лавіць птушак і трымаць іх у няволі без патрэбы. Іслам не ўхваляе таксама без пільнай патрэбы ссякаць дрэвы і хмызняк. Чалавек можа выкарыстоўваць садавіну і іншыя плады, але не мае права іх псаваць. Іслам не дазваляе таксама нішчыць нежывыя прыродныя рэчывы і утварэнні, напрыклад, ваду і водныя крыніцы і вучыць берагчы ўсе прыродныя рэсурсы, як жывыя, так і нежывыя. А. Маўдудзі.

БАГУН /Ledum/, род вечназялёных кустоў сямейства верасавых. Паводле слоўніка Шыпавай слова б а г у н цюркскага паходжання. Расліна вышынёй 10—130 см. Лісце скурыстае, лінейна-падоўжанае. Кветкі белыя, духмяныя. Суквецце — парасонападобны шчыток. Вядома 8 відаў, на Беларусі — адзін -- багун балотны /Ledum palustre /, народныя назвы: багно, бахун, бор, клапоўнік/. Утварае зараснікі па вярховых балотах. Ядавіты, мае ў сабе гліказід арбуцін, дубільныя рэчывы, эфірны алей з рэзкім пахам. Настой з травы ўжываецца ў медыцыне як адхарквальны сродак. Лісце — сродак ад молі і клапоў.

З кнігі "Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя".

БАКЛАЖАН /Solanum melongena /, шматгадовая агародная расліна сямейства паслёнавых. Паводле слоўніка Шыпавай слова б а к л а ж а н цюркскага паходжання. Дзікарослыя вядомы ў Індыі, дзе упершыню уведзены у культуру задоўга да нашай эры. На Беларусі пашыраны ў паўднёвых раёнах Брэсцкай і Гомель-

скай абласцей; можна вырошчваць на усёй тэрыторыі Рэспублікі з выкарыстаннем расады і плёначных укрыццяу. Вышыня расліны да 1 м. Лісце простае, авальнае, перыста-лопасцевае або суцэльнае, зялёнае з фіялетавым адценнем. Кветкі фіялетавыя, пазушныя, адзіночныя або у гронках. Плады — ягады грушападобнай, круглай або цыліндрычнай формы, фіялетавыя, жоутыя з карычневымі палосамі, зялёныя, белыя. Мякаць белая ці зеленаватая. Вегетацыйны перыяд 100—140 сутак. У культуры аднагадовая, цепла- і вільгацелюбная расліна, вырошчваецца расадай на ахаваных ад халодных вятроу участках з лёгкай суглінісгай глебай. Пашыраны сарты: Далікатэс 163, Доугі фіялетавы 239. Ураджайнасць 15—30 т/га. У ежу выкарыстоуваюць плады у фазе тэхналагічнай спеласці, яны маюць цукры, бялкі, тлушчы, а таксама солі кальцыю, фосфару, жалеза. Н. Завадская.

БАКЛАН ВЯЛІКІ, к а р м а р а н /Phalacrocoraks carbo/, птушка сямейства бакланавых атрада весла80гіх. Паводле слоуніка Шыпавай слова б а к л а н цюркскага паходжання. Баклан пашыраны у Еуропе, Азіі, Пауночнай Амерыцы. На Беларусі вельмі рэдкі залётны від /таму ахоуваецца/; паводле звестак К. Тызенгаузе /1846 г./ у мінулым гнездавауся на Палессі. У 1960, 1964 г. адзінкавыя птушкі адзначаны у Аршанскім і Брэсцкім раёнах. Корміцца рыбай. Птушанятам рыбу прыносіць з вадаёма на адлегласці да 30—40 км.

Даужыня цела птушкі 85—93 см, маса 1,7—3 кг. Самкі крыху драбнейшыя за самцоу. Дзюба моцная, доугая, загнутая на канцы. Усе 4 пальцы злучаны плавальнай перапонкай. Апярэнне дарослых чорнае з бронзава-зеленаватым бляскам на спіне і пурпурова-сінявагым на брушку. Пер"і мантыі бронзава-бурыя з зеленавата-чорнымі краямі, што надае апярэнню лускаваты малюнак. Тваравая частка галавы не аперана, пакрыта жоутай скурай. Галава, шыя і пярэдняя частка валляка бурavата-шэрая з дробным белым рабаціннем. На сцёгнах буйныя белыя плямы. Добра плавае і ныра. У краінах Далёкага Усходу і Паудневa-Усходняй Азіі нярэдка выкарыстоуваюць бакланау для палявання за рыбамі. Вялікія залежы чылійскай салетры — гэта гуана /памёт/ бакланау.

З кнігі "Беларуская ССР. Кароткая Энцыклапедыя".

ВАЙЗУЛІН Ікрам Халімавіч /н. 14.12.1919, в. Тукар Сабінскага раёна, Татарстан/, адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Віцебскай вобл. ў Айчынную вайну. З рабочых. Член КПСС з 1944. З чэрв. 1941 у Чырв. Арміі; з чэрв. 1942 у партызанах — камандзір аддзялення, палітрук, камандзір узвода. З лют. 1943 нам. камандзіра брыгады, з жн. камісар Першай Смаленскай партызанскай брыгады Віцебскай вобл. Узнагароджаны ордэнам Чыв. Сцяга, медалямі. Жыве ў Наваполацку.

26.6.1944 брыгада /390 партызан/ злучылася з Чырв. Арміяй. На дзень злучэння яднала 5 атрадаў. Дзейнічала на тэр. Смаленскай вобл. Віцебскай /Сенненскі, Талачынскі, Чашніцкі, Лепельскі раёны/ і Мінскай /Халопеніцкі, Крупскі раёны/.

З кнігі "Беларуская ССР. Кароткая Энцыклапедыя."

ВАРШАЎСКІЯ МІЗАРЫ. У Варшаве былі два мусульманскія мізары — адзін пры вуліцы Млынарскай на Волі, другі — на Павонзках пры вуліцы Татарскай. Першы, закладзены яшчэ ў 1839 г. рускімі вайсковымі ўладамі для службоўцаў мусульманскага веравызнання, быў здаўна нечынны і сістэматычна знішчаўся з 80-х гадоў 19 ст. Павонзкаўскі мізар, закладзены ў 1867 г. таксама быў прызначаны для вайскоўцаў. Хавалі на ім мусульман да 1914 г. і не толькі вайскоўцаў, але і жыхароў Варшавы мусульманскай веры. Надмагільныя камяні, якім надавалі іншы стыль, чым на іншых мізарах літоўскіх татараў, па выгляду нагадвалі турэцкія, паволжскія ці крымскія мізары. Пасля аднаўлення незалежнасці кароткі час мізар знаходзіўся над наглядам польскіх вайсковых улад, а пазней перайшоў пад апеку мясцовага джаміята. Хавалі на ім, як і раней, не толькі польскіх татараў, але і мусульман іншых народаў, між іншымі і імігрантаў з Каўказа.

А. Міськевіч.

ГАЙСАРАЎ Ахмет Зіганшынавіч /н. 20.11.1906, с. В. Кайбіцы Апастаўскага раёна, Татарстан/, адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Баранавіцкай вобл. ў Айч. вайну. Член КПСС з 1927. Скончыў Казанскі камуніст. універсітэт /1932/. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну удзельнік абароны Беластока. З сак. 1943 у партызанах: радавы, камандзір узвода, камісар партызанскай брыгады імя Г.К. Жукава, адначасова з снеж. 1943 2-і сакратар Стаўбцоўскага падп. РК КП/б/Б. У 1944—77

на парт., адм.-гасп. і сав. рабоце у Баранавіцкай і Гродзенскай абл. Брыгада дзейнічала на тэр. Баранавіцкай вобл. /Стаубцоускі, Мірскі раёны/. 10.7.1944 брыгада /733 партызаны/ злучылася з Чырвонай Арміяй. На дзень злучання яднала 5 атрадау.

З кнігі "Беларуская ССР. Кароткая Энцыклапедыя/.

ДАДЖАЛ, а д - Д а д ж ж а л /"падманшчык", ад арамейскага даггала — "фальшывы", "ілжывы"/ — персанаж мусульманскіх паданняу — спакуснік людзей, які павінен з"явіцца перад канцом свету. Тыпалагічна і функцыянальна адпавядае антыхрысту у хрысціянскіх сказаннях. У Кур"ане Даджал не упамінаецца, але часта апісваецца у сярэдневяковых сказаннях пра бедствы, якія маюць адбыцца /"малахім"/. Належыць да кампаніі Ібліса, знаходзіцца на востраве у Індыйскім акіяне. Ён прыкаваны да скалы і знаходзіцца пад вартай д ж ы н а у. Мараплауцы, якія праплываюць каля вострава, чуюць музыку, якая даносіцца з вострава і могуць браць прысмакі і у жыхароу вострава, якія ніколі не паказваюцца людзям, але пакідаюць тавары на беразе для абмену.

Перад канцом свету, калі Йаджуд і Маджуд /адпавядаюць біблейскім Гогу і Магогу/ прарвуць сцяну, якая іх стрымлівае, Даджал таксама вызваліцца ад ланцугоу, з"явіцца на чале войска, седзячы на вялізным асле, і усюды на зямлі, акрамя Меккі і Медыны, установіць сваё параванне, якое працягнаецца 40 дзён /або 40 гадоу/. Іса і Махдзі знішчаць царства Даджала, а затым Махді /у некаторых варыянтах Іса/ заб"е яго у Сірыі ці Палесціне.

Часам з Даджалам атоесамлівалі некаторых персанажау мусульманскіх паданняу — сучаснікау Мухаммеда — Ібн Сайіда, легендарнага старажытнаараві́йскага прадказальніка Шыкку.

М. Піятроускі.

ЖУПАН, старадаўняе верхняе мужчынскае і жаночае адзенне, вядомае таксама пад назвай ш а р а к. Паводле слоуніка Шыпавай слова жупан цюркскага паходжання. Магчыма, што разам з венграмі гэта слова і адзенне паявілася і у іншых краінах, напрыклад, у Польшчы. У 16—19 ст. быу часткай адзення шляхты, мяшчан і украінскага казацтва. Шылі з сукна, пераважна сіняга і чырвонага колеру. Крой прамы, двухбортны, спінка прыталеная,

з бакоў устаўляліся прызбораныя кліны. Пярэднія гладкія полкі зашпільваліся збоку на 2 гузікі. Вялікі адкладны каўнер і закаўрашы часта шылі з чырвонага атласу, аксаміту ці футра.

З кнігі "Беларуская ССР. Кароткая Энцыклапедыя".

КАРАІЗМ, караімская вера, прызнае Стары Запавет з дзесяццю запаведзямі ў першапачатковым выглядзе, але пры гэтым караімскае веравучэнне грунтуецца на тых жа самых прынцыпах, на якіх грунтуецца і хрысціянства.

Дзесяць запаведзяў:

1. Бог стварыў увесь фізічны і духоўны свет у часе і з нічога;
2. Ён — Творца, які Сам не быў створаны;
3. Бог не мае формы, ні з чым нельга параўнаць, бесцялесны і абсалютна адзіны;
4. Ён паслаў нашага настаўніка Майсея;
5. Ён паслаў нам праз Майсея Тору, якая утрымлівае абсалютную ісціну і не можа быць дапоўнена або заменена якім-небудзь іншым законам;
6. Кожны вернік павінен вывучаць Тору ў арыгінале і уразумець яе існы сэнс;
7. Бог раскрыўся і іншым прарокам /хоць іх прарочы дар меншы, чым дар Майсея/;
8. Бог уваскросіць памерлых у Судны Дзень;
9. Бог аддзячыць кожнаму чалавеку паводле таго, што чалавек заслужыў /асабістая правідэнцыя, свабода волі, несмяротнасць душы і справядлівая ўзнагарода ў тым свеце/;
10. Бог не праследуе тых, хто жыве ў выгнанні, але жадае ачысціць іх з дапамогай выпрабаванняў; яны могуць спадзявацца на Яго пастаянную дапамогу і на збаўленне, якое будзе здзейснена праз Месію — нашчадка Давыда.

Паявіўся караізм на Усходзе як вера, паслядоўнікі якой вызнавалі толькі Стары Запавет і не прызнавалі ніякіх тлумачэнняў да яго. Вырашальнае значэнне для станаўлення караізму як самастойнай веры адыграла дзейнасць выдатнага багаслова свайго часу — Анана-бен-Давыда /751—840/, які аб"яднаў ессэяў, самарыцян і наогул усіх, хто змагаўся за чысціню Старога Запавету. У канцы УШ ст. Анан перасяліўся ў Іерусалім, дзе пісаў сваю знакамітую "Кнігу Пастаноў". У гэтай працы ён прапаноўваў не

слепа кіравацца яго думкай, а чытаць і глыбока вывучаць Стары Запавет. Прызнаючы толькі Пісаны Закон, прыхільнікі Анана шмат часу аддавалі чытанню і вывучэнню Старога Запавету. У катакомбах Іерусаліма Анан збудаваў першы караімскі храм-кенасу. Яна стала узорам для будаўніцтва кенас усюды, дзе жылі караімы. Анан вызначыў усе дагматы караімскай веры /караізму/, склаў каляндар, стварыў святарскую іерархію. За кароткі час караізм пашырыўся сярод народаў рознага этнічнага паходжання. Узніклі шматлікія абшчыны на Блізкім Усходзе, у Паўночнай Афрыцы, Іспаніі, Візантыі, на Балканах, у Прычарнамор'і і Прыкаспіі. Паявіліся такія выдатныя багасловы, як духоўны кіраўнік караімаў Месапатаміі Мукмач /Х ст./, як Веніямін Нагавендзі, што прапагандаваў вучэнне, блізкае да вучэння Філона Александрыйскага аб Логасе /XI ст./ і іншыя. Вялікім місіянерскім дасягненнем было прыняцце караізму некаторымі качавымі народамі Усходняй Еўропы /полаўцамі, найманамі, узунамі, чуванамі і іншымі/. Напрыклад, місіянер Ісаак Сангары з Месапатаміі шмат зрабіў для таго, каб частка хазараў прыняла караізм. На караімскіх могілках у Чуфут-Кале "Балта-Тэймез" археолаг А.С. Фіркові́ч знайшоў магілу Сангары, а пазней антраполаг Штэрн — магілу жонкі Сангары.

Караімы заўсёды вылучаліся талерантнасцю. Яны ніколі не праяўлялі непрыязні да іншых народаў і нікога, акрамя язычнікаў, не імкнуліся далучыць да сваей веры. Яны лічылі, што кожны, хто выконвае законы сваей веры у адзінага Бога, заслугоўвае райскага жыцця на тым свеце.

Пачынаючы з Анана /па-персідску Анан ібн Дауд/ караімы знаходзіліся пад прыкметным уплывам багаслоўскай школы Азама абу Ганіфы /Абу Ганіфа/ і пераймалі некаторыя палажэнні і прынцыпы Ісламу.

Да далучэння Крыма да Расіі побыт і сямейнае жыццё караімаў мала чым адрозніваліся ад мусульманства. Гісторык Э. Дайкер у працы "Гісторыя крымскіх караімаў" /Варшава, 1833 г./ называе 25 пунктаў у доказ блізкасці караімскага веравучэння і побыту да мусульманскіх. Вось некаторыя з іх: алтар караімскіх кенас, як і і міхраб мусульманскіх мячэцяў, арыентаваны на поўдзень; падлогі храма засцілаецца дыванамі; як і мусульмане, караімы перад малітвай выконваюць абрад абмывання /звычайна дома/ і

пры уваходзе у храм разуваюцца; сваю літургію караімы адпраўляюць, у асноўным, на старажытнацюркскай мове, вельмі блізкай да мовы арыгінала адзінага помніка куманскай /палавецкай/ літаратуры — "Кодэкса куманікуса"; нарэшце, караімскае вучэнне прызнае Ісуса Хрыста і Мухаммеда вялікімі прарокамі.

Асветніцкая дзейнасць амаль усіх караімскіх вучоных і філасафаў насіла рэлігійны характар. Зыходзячы з гор ці працуючы у Бахчысараі, караімы пачыналі заўсёды вярталіся у свае хаты, пячоры, пад ахову муроў, на камянях якіх выбіты старадаўнія рунічныя знакі, якія сягаюць да эпохі хазараў. Вера караімаў дапамагла ім не растварыцца у навакольным мусульманскім і хрысціянскім насельніцтве, зберагчы сябе як у этнічным, так і у культурным сэнсе. М. Сарач.

КАРАІМСКАЯ МОВА, мова караімаў. Сучасная караімская мова прадстаўлена крымскім, галіцка-луцкім /Украіна/ і тракайскім дыялектамі /Літва/. У караімска-руска-польскім слоўніку, складзеным мовазнаўцамі Польшчы і Расіі /А. Зайанчкоўскі, А. Дубінскі, В. Зайанчкоўскі, С. Шапшал, М. Баскакаў/ і надрукаваным у Маскве у 1974 г., змешчана 17400 караімскіх слоў. Залежна ад месца пасялення караімы, акрамя роднай мовы, добра валодаюць мовамі краін, грамадзянамі якіх яны з'яўляюцца.

По фанетычных, марфалагічных і лексічных асаблівасцях караімская мова вельмі блізкая да старажытнацюркскіх моў, у прыватнасці да палавецкай /куманскай/ мовы, а з сучасных цюркскіх моў — да карачаева-балкарскай, кумыкскай, крымскататарскай мовы.

Караімская мова уяўляе сабою вялікую цікавасць для лінгвістаў, бо фанетычная структура, лексіка і граматыка зберагл! рысы цюркскіх моў старажытных часоў, якія у іншых сучасных цюркскіх мовах ужо не ўжываюцца ці зніклі зусім. У адносінах фанетычных асаблівасцей адзначаецца палаталізацыя зычных гукаў — наяўнасці двух пар — мяккіх і цвёрдых. Старажытнацюркская мова архонскіх надпісаў таксама адзначае наяўнасць парных зычных, палаталізаваных і непалаталізаваных.

Старажытныя элементы уласцівы і лексічнаму складу караімскай мовы. Гэта, у прыватнасці, словы са сферы земляробства, пчалярства, вайсковай справы, замешчаныя у іншых цюркскіх мовах пазнейшымі запазычаннямі з персідскай і арабскай моў. Не

сінтаксіс караімскай мовы пэуны уплыу аказалі іншыя мовы.

Падрыхтавала Г. Гаммал.

---

У гэтым нумары "Байрама" гл. слоунік некаторых караімскіх слоу, прыказкі і прымаукі. Калі чытачам спадабаецца супастауленне караімскай і іншых цюркскіх моу, то "Байрам" будзе друкаваць падобныя матэрыялы.

КАРАІМЫ /саманазва к а р а і — тыя, якія чытаюць Стары Запавет, біблейцы/, народ, які вызнае рэлігію караізм. Жывуць караімы /па звестках на канец 80 — пач. 90-х гадоу гэтага стагоддзя/ у Ізраілі /больш за 20 тыс. чалавек, у асноуным эмігранты з арабскіх краін/, у Украіне /1404 чал., у т.л. у Крымскай вобл. 898 чал./, у Літве /289 чал./, у Расійскай Федэрацыі /каля І тыс. чал., у т.л. у Маскве і Пецярбургу каля 680 чал./, у Польшчы, Францыі і інш. краінах. Караімы добра валодаюць мовамі народу тых краін, паунапраунымі грамадзянамі якіх яны з"яуляюцца. Нашчадкі караімау, якія жылі у Расійскай Імперыі, роднай мовай лічаць караімскую мову. Існуе багатая літаратура пра паходжанне караімау. Некаторыя даследчыкі лічаць, што караімы — гэта нашчадкі таурау, якіх як вельмі ваяунічых насельнікау Крымскіх гор апісалі старажытнагрэчаскія мараплаунцы. Іншыя даследчыкі сцвярджаюць: караімы — нашчадкі старажытнацюркскіх плямёнау узунау, чунау, іншага абарыгеннага насельніцтва Крыма, якое уваходзіла у УШ—Х стагоддзях у склад Хазарскага каганата.

Аб раннім пасяленні караімау у Крыме сведчаць арыентаванне на поудзень старадауніх караімскія надмагіллі з надпісамі імёнау на цюркскай мове: могілкі Балта-Тэймез у Джуфут-Кале /Чуфут-Кале/ — 240 г. н.э., у Мангуп-Кале — 866 г., у Салхаце /Старым Крыме/ — 910 г., у Кафе /Феадосіі/ — 1076 г., трапляецца упамінанне пра надмагільныя помнікі караімау, якія тут жылі у І ст. н.э., нават да н.э. Большасць гісторыкау караімскага народа лічаць, што найбольшую ролю у жыцці гэтага народа адыгралі хазары, часткай якога з"яуляюцца сучасныя караімы. У 60-х гадах УІ ст. хазары былі падпарадкаваны Цюркскаму каганату. У сярэдзіне УП ст., пасля распаду Заходне-Цюркскага каганата узнік Хазарскі каганат. Паводле гісторыка яурэйскага народа С.М. Дубнова частка яурэяу, якія жылі у Міжрэччы

/Месапатамії/, каля Багдада, у 2-й палавіне УШ ст. утварыла секту і перасялілася у Палесціну, а ужо адтуль у краіны паудневага Міжземнамор"я, Візантыі і Прычарнамор"я /у т.л. і Крыма/. У пачатку XI ст. пад ударамі візантыйцау і славян /Старажытнарускай дзяржавы/ каганат пау. Хазары, якія вызнавалі хрысціянскую веру, зліліся са сваімі заваёунікамі — візантыйцамі і русічамі; хазары ісламскай веры растварыліся у масе печанегау, а паслядоунікі караізму засяродзіліся у Крыме. Паступова у Крым імігрыравалі з іншых раёнау невялікія абшчыны, якія вызнавалі караізм, а таксама з Візантыі. Зліушыся з мясцовымі караімамі эмігранты прынялі іх назву і сталі называць сябе "караімамі". У Крыме хазары-караімы жылі у Салхаце /Старым Крыме/, Чамбала /Балаклаве/, Сугедэі /Судаку/, Кафе /Феадосіі/ і гарадах-крэпасцях /Эскі-Кермен, Мангуп-Кале, Кырк-Ерэ — пазнейшая назва Джуфут-Кале, Чуфут-Кале/. Паступова жыццё у стэпавай частцы Крыма станавілася небяспечным з прычыны частых наездау качавых плямён і караімы вымушаны былі перасяліцца у Мангуп-Кале і Кырк-Ер. У XII ст. Кырк-Ер стау сталіцай крымскіх караімау.

У 1261 г. караімы адстаялі сваю крэпасць ад нападу добра узброенага войска генуэзцау. У 1340 г. у Крыме пашырылася чума і многа людзей, у тым ліку караімау, памерла ад гэтай хваробы. Тыя, хто выратавауся ад чумы, перасяліліся у Кырк-Ер, што прывяло да шчыльнай забудовы горада, які разросся за межы былой сцяны і прыйшлося будаваць новую сцяну. Гэта было у час княжання Менехема, а пасля яго смерці у 1396 г. будаунііцтва было завершана у час праулення Элізара. Крэпасць Чуфут-Кале была непрыступнай да 1736 г., калі руская армія пад камандаваннем фельдмаршала Мініха з дапамогай цяжкіх гармат вымусіла абаронцау капітуляваць.

Спачатку кіраванне караімскай абшчыны у Кырк-Ор /крэпасць Кырк-Ер і навакольная прастора/ ажыццяулялася выбарнымі асобамі. Паступова улада выбарных узмацнялася і у.канцы XII ст. стала перадавацца па спадчыне. Князь /па-караімску "бій"/ спачатку падпарадкоувауся толькі духоунаму уладыку — гахаму /хахаму/, як было і у хазарау. Пазней, пры татарскіх ханах, князі атрымалі яшчэ большую уладу, бо ханы не умешваліся ва унутраныя справы караімау і прадаставілі ім поунае самакіраванне.

З сярэдзіны XIУ ст., на працягу 400 гадоу караімы падтрымлівалі цесныя сувязі з крымскімі татарамі. Некаторыя караімскія князі і відныя караімскія дзеячы мелі вялікі уплыу на крымскіх ханау, якія у час небяспекі знаходзілі у крэпасці Кырк-Ер прытулак і ахову. У крэпасці пазней знаходзіуся манетны двор Крымскага ханства. З часу першага крымскага хана Хаджы Гірэя і да апошняга хана Шагін-Гірэя крымскія караімы карысталіся тарханнымі /ахоунымі/ ханскімі граматамі, якія вызвалялі іх ад большасці падаткау і пошлін у межах Крымскага ханства.

Пасля заваявання Крымскага ханства Кацярынай П у 1783 г. караімы былі пазбаулены сваіх тарханных прывілеяу. Указам імператрыцы у 1775 г. караімы былі зрауняны у правах з іншымі насельнікамі Таўрычаскай губерні. Усім караімам спецыяльнымі указамі і палажэннямі расійскага урада /1785, 1827, 1837, 1839, 1843, 1853, 1865 і інш./ былі прадстаулены роуныя з праваслаунымі правы.

Прыродныя умовы пражывання у гарах былі даволі суровымі, таму з далучэннем Крыма да Расіі караімы пакідалі паступова сваё жыллё у крэпасці і перасяліліся у Сімферопаль, Севастопаль, Еупаторыю; у Адэсу, Херсон, Мікалаеу, Харкау, Маскву, Кіеу і інш. Сталіцай караімау паступова стала Еупаторыя, у якую перамясціуся і рэлігійны цэнтр. У 1807 г. было завершана будауніцтва саборнай кенасы /храма караімау/ на месцы старой.

У першыя дзесяцігоддзі пасля далучэння Крыма да Расіі караімы, якія пераехалі у іншыя гарады, прытрымлівалася старых звычаяу: гаварылі на сваей мове, насілі нацыянальны касцюм, пакоі абстаулялі сваёй мэбляй. Кожную вясну яны выязджалі у сады, вінаграднікі, землі на раунiннай частцы паувострава, дзе займаліся жывёлагадоуляй /авечка- і конегадоуляй/, а у гарадах — рамесніцтвам і гандлем /былі таксама і багатыя прадпрыемствы/. Найдаужэй бытавалі мужчынскі галауны убор — "караімка" — шапка з аучыны каракульскага ягняці, а з мэблі — канапа "сэт", на якой сядзелі з падабранымі пад сябе нагамі.

Арыгінальнымі былі дамы караімау. Пры іх былі падворкі, акружаныя невысокай мураванай сцяной, найчасцей з забрукаванымі падлогамі, якія летам мылі, дзе варылі страву, елі, прымалі гасцей, спалі. Тут раслі шаукоунiцы /лісты ішлі на корм для шаукавічных вусеняу, з якіх атрымлівалі шауковыя ніткі, а ягады шаукавіцы ішлі на варэнне/, вінаградная лаза. Дом

меў порцік з верандай, арыентаванай на поўдзень, з разнымі капітэлямі. Паміж суседнімі дамамі былі пераходы і веснічкі, каб зручна было хадзіць жанчынам у госці.

Патрабаванне веры караімаў — чытаць Стары Запавет вымагала ад кожнага быць пісьменным. Паводле перапісу 1897 г. 75% караімаў былі пісьменнымі, гэта практычна кожны, каму было больш за 7—8 гадоў. Працавіты і таленавіты караімскі народ вылучыў многа славутых дзеячаў навукі і культуры. Адным з першых караімаў-вучоных, які стаў шырока вядомы, гэта А. Фірковіч /1787, Луцк — 1874/. Збіральнік старажытных рукапісаў, археолаг, даследчык Блізкага Усходу, Каўказа і Крыма, куды пераехаў на сталае жыццё у 1813 г. і жыў у Кырк-Ерн /Чуфут-Кале/. Шмат падарожнічаў, наведаў Палесціну, Егіпет, Сірыю, Турцыю, Каўказ, пазнаёміўся з жыццём караімскіх абшчын у Галіцыі /тады Галіцыя была ў складзе Аўстра-Венгрыі/ і Тракаі. Часта бываў у Іерусаліме і караімы далі яму мянушку — "Хаджы-Бабай", гэта значыць "Бацька падарожнікаў". Яму удалося знайсці унікальныя матэрыялы, у тым ліку так званы "Вавілонскі кодэкс" 916 г., які да кумранскіх знаходак быў вядомы як найстарэйшы помнік біблейскай пісанай літаратуры. Гэты кодэкс быў перапісаны у 1088 годзе. Некаторыя даследчыкі гісторыі караімаў выказваюцца аб тым, што А. Фірковіч у сваіх высновах дапускаў памылкі, нават рабіў падробкі, каб пажаданае выдаць за сапраўднае. Падобныя абвінавачванні высуваліся і да іншых гісторыкаў іншых народаў.

Першым караім, які скончыў Рышальеўскае вучылішча ў Адэсе, быў ураджэнец Літвы Р. Кабецкі. У 1859 г. скончыў універсітэт у Санкт-Пецярбургу Ілля Казас /1833, Адэса — 1912/, у 1862 г. ён абараніў кандыдацкую дысертацыю і стаў першым караімам з вышэйшай адукацыяй і вучонай ступенню. Ён быў сапраўдным асветнікам свайго народа. Выдатны педагог, паэт, гісторык і лінгвіст /ведаў 11 моў, з якіх 4 былі старажытныя/, пачаў выдаваць часопіс "Давул" /"Барабан"/, які выходзіў з 1864 па 1872 год. З яго дапамогай у 1895 г. у Еўпаторыі была адчынена Александраўскае духоўнае вучылішча. Сын І. Казаса — Барыс Казас /1861 г., Адэса — 1922/ скончыў медыцынскі факультэт Харкаўскага універсітэта, у 1895 г. абараніў доктарскую дысертацыю.

Перыяд з 1907 да 1917 г. быў для караімаў сапраўдным незвычайным уздымам духу і культуры. У 1911—1912 гадах вы-

даваўся ў Маскве часопіс "Караімскае жыццё", у 1913—14 гадах у Вільнюсе — часопіс "Караімскае слова", у 1917—1919 гадах у Еўпаторыі выходзілі "Весці караімскага духоўнага праўлення", склікаліся з"езды, канферэнцыі, выдаваліся зборнікі вершаў, пісаліся драматычныя творы на караімскай мове. У 1916 г. у Еўпаторыі апошні гахам караімаў доктар філалагічных навук, прафесар Серая Шапшал заснаваў караімскую бібліятэку, у якой было сабрана ўсё, што тады было вядома пра караімаў /пад пагрозай смерці эмігрыраваў у Турцыю, пазней быў гахамам у Вільнюсе/. У Еўпаторыі быў адчынены невялікі этнаграфічны музей. Тут жа ў жніўні 1917 г. адбыўся самы прадстаўнічы з"езд караімаў.

Пасля ўстанаўлення савецкай улады ў Крыме ва ўсіх гарадах ствараліся нацыянальныя клубы. Караімскія клубы былі практычна ва ўсіх гарадах Крыма. У Сімферопалі было створана Крымскае аб"яднанне караімскіх абшчын. У клубах дзейнічалі гурткі, адзначаліся афіцыйныя святы. Кенасы наведвалі толькі пажылыя людзі. Клубы і кенасы дзейнічалі да 1931—1932 г. За гэты час адбыліся тры агульнакараімскія з"езды, быў выпушчаны нумар часопіса "Бизим йол" /"Наш шлях"/. У выніку дзяржаўнай атэістычнай прапаганды, праследавання святароў, нацыянальнай інтэлігенцыі, мяшаных шлюбаў памяншалася колькасць людзей, якія ведалі родную мову, традыцыі і гісторыю свайго народа.

Пасля 1917 г. частка караімскай інтэлігенцыі і заможных людзей эмігрыравала з Расіі ў Турцыю, Польшчу, Германію, Францыю. Паменшылася колькасць караімаў у Крыме з прычыны хвароб і галоднай смерці ў час грамадзянскай вайны. Раней шматдзетныя сем"і /да 6—8 дзяцей у сям"і/ сталі рэдкай з"явай. За час з 1917 г. да пачатку 1990-х гадоў колькасць караімаў на тэрыторыі былой Расійскай Імперыі скарацілася ў 4,5 разы /з 12,8 тыс. да 2,8 тыс. чалавек/. Караімы вельмі пацярпелі ў час другой сусветнай вайны, хоць не так моцна, як яўрэі. Многіх караімаў расстралялі фашысты ў час акупацыі Кіева ў Бабіным Яры, былі расстраляны як заложнікі акупантаў, памерлі ад голаду і хвароб на роднай крымскай зямлі, нарэшце ў выгнанні, дзе апынуліся яны і крымскія татары ў выніку сталінскага генацыду /пасля смерці Сталіна караімы былі цалкам і поўнасцю рэабілітаваны, а большасць жывых вярнуліся на родную зямлю/.

Караіми удзельнічалі у баях супроць нямецка-фашысцкай арміі і за адвагу і умельства у вайне былі узнагароджаны ордэнамі, медалямі, адзначаны высокімі вайсковымі званнямі. Уладзімір Якаулевіч Калпакчы, караім /7.9.1899, Кіеу — 17.5. 1961/ — Герой Савецкага Саюза /1945 г./, генерал арміі /1961 г./, удзельнік грамадзянскай вайны у Іспаніі /1936—39/. Пад яго камандаваннем 63-я армія удзельнічала у Гомельска-Рэчыцкай аперацыі у 1943 годзе. Вось самыя кароткія звесткі пра выдатных людзей караімскага народа. Таурычаскі і адэскі гахам Самуіл ПАМПУЛАЎ /1831, Еупаторыя — 1911/; грамадскі дзеяч Марк САРАЧ /1845, Еупаторыя — 1903/; піяніст-педагог і кампазітар Самуіл МАЙКАПАР /1867, Херсон — 1938/; урач і грамадскі дзеяч Майсей ЕФЕТ /1867, Еупаторыя — 1944/; контр-адмірал Расійскага флоту Якау КЕФЕЛІ /1876, Мікалаеу — 1967, у эміграцыі з часоу грамадзянскай вайны/; грамадскі дзеяч Самуіл ХОДЖАШ /1881, Крамянчуг — 1942/; вучоны-педагог, народны асветнік Барыс ЕЛЬЯШЭВІЧ /1881, Паняважыс — 1971/; рэжысёр, доктар мастацтвазнаyства, народны артыст СССР, Герой Сацыялістычнай Працы Сяргей ЮТКЕВІЧ /1904, Санкт-Пецярбург — 1985/; гісторык, літаратар Сямён ШЫШМАН /нар. у 1908, Сімферопаль, Крамянчуг — 1987/; палітычны дзеяч, журналіст Іосіф ГРЫДУЛЕВІЧ /1913, Вільнюс — 1988/; народны мастак РСФСР, прафесар Сцяпан ДУДНІК /нар. у 1915, Феадосія/; архітэктар Ніна АРБАДЖЫ /па мужу ВАРОНІНА, нар. у 1922, гор. Арол/. Вядомы таксама мастак Д. ЧАРКЕС, піяніст Я. АЙВАЗ, архітэктар С. МІНАШ, пісьменнік А. КАТЫК, кінарэжысёр Д. ЯШЫШ.

У канцы 80-х і пачатку 90-х гадоу нашага стагоддзя пачалося адраджэнне караімскай культуры. Збіраюцца з"езды караімау, ініцыятарамі якіх з"яуляюцца літоускія караімы.

Каб не растварыліся караімы сярод іншых народау, каб не загінуу караімскі народ свядомыя прадстаунікі гэтага народа пакінулі сваім нашчадкам запавет:

1. Караімы, вы спрадвечныя насельнікі Крыма, носьбіты старадаунай унікальнай культуры. Беражыце яе.

2. Караімы, шануйце сваю мову — яна злучае вас з нашымі цюркскімі братамі — крымскімі татарамі.

3. Мужчыны-караімы, будзьце мужчынамі. Памятайце сімвалы

ванага герба: ичит і раион. Утварайце вялікія сем"і, працягвайце свой род, не аддаляйцеся ад бацькоу, шануйце сямейныя абычаі.

4. Караімы Крыма, клапаціцеся пра вашых брату у Галічы і Луцку, Паняважысе і Тракаі. Памятайце, вам лягчэй, вы кожны дзень бачыце крымскае неба і дакранаецеся да крымскіх камянёу.
5. Караімы, вы валодаеце мовамі іншых народау, сярод якіх жылі ці жывяце, вас стварыла чалавецтва і абучалі шмат стагоддзяу татары Крыма, літоуцы, рускія. Сябруйце з імі, будзьце удзячнымі суседзямі.
6. Караімы, памятайце што вашы гахамы і газзаны /святары у прыходах/ зберагалі вам веру, зямлю, абычаі. Не забудзем нашых асветнікау і, перш за усё, Серая Шапшала.
7. Нашы продкі ганарыліся што у караімскай абшчыне не было жабракоу. Багатыя дапамагалі маламаёмасным, багатыя ведамі — тым, хто яшчэ не атрымау добрай адукацыі. Ідзіце шляхам дабра.
8. Той, хто еу караімскія стравы, помн"ць аб іх усё жыццё.

## Караімы у Вялікім Княстве Літоускім

Каля 400 сямей караімау пасяліліся у 1397 г. у Вялікім Княстве Літоускім па запрашэнні Вітаута Вялікага. Яны неслі гвардзейскую службу — ахоувалі асобу вялікага князя і Трокскага /Тракайскага/ замка. Караімы атрымалі зямлю для сваіх пабудоу, садоу і агародау, палявых пасевау, пашау і сенажацяу. Сярод іх былі таксама людзі разумовай працы — дыпламаты, талмачы /перакладчыкі/, лекары, настаунікі, гандлёуцы.

Большасць караімау пасялілася каля замка, тут была Тракайская вуліца і частка горада называлася Караімшчынай, быу пабудаваны караімскі храм /кенаса/. Пазней караімы паявіліся таксама і у іншых месцах Вялікага Княства Літоускага — Біржай, Паняважысе, пас. Наулмесціс і вёсцы Упіта каля Паняважыса, Вільнюсе. У Літве караімы утварылі асобную абшчыну, яе адміністрацыйным і духоуным цэнтрам быу Тракай. У 1441 г. абшчына атрымала права на самакіраванне /магдэбургскае права/. Граматы літоускіх князёу 1492, 1498, 1507 і інш. пацвярджалі гэтыя прывілеі караімам і дадавалі новыя. Да 1795 г. караімы

былі падпарадкаваны свайму войту у Тракаі; з 1850 г. — рэлігійнаму правіцелю караіму гахану і духоунаму кіраунiку у Крыме /Еупаторыі/; з 1857 г. — асобнаму караімскаму гахану Літвы, рэзідэнцыя якога знаходзілася у Тракаі /у 1928—1945 гадах у Вільнюсе/.

У час праулення Вітаута Вялікага частка караімау была паселена на паудлёвым захадзе Вялікага Княства Літоускага — у Луцку, Галічы /Валынскім/ і каля Львова, пазней яны жылі і у гэтым горадзе. Усяго у ВКЛ у ХУ ст. было каля 5 тыс. караімау. Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што галіцкія караімы /часам іх так называюць/ пасяліліся значна пазней, чым тракайскія каля Вільнюса. Тыя караімы, якія жылі каля Галіча і Львова аказаліся у падпарадкаванні непасрэдна польскага караля, а пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай — у складзе Аустра-Венгрыі.

Хоць і раздзеленыя вялікімі адлегласцямі і дзяржаунымі граніцамі крымскія, тракайскія і галіцкія караімы падтрымлівалі сувязь. Гэтаму садзейнічала агульнае паходжанне, адзіная вера і тое, што для стварэння караімскай сям"і трэба было шукаць пару такіх маладых людзей, якія не былі б нават даволі далёкай раднёй.

У Вялікім Княстве Літоускім, затым у Рэчы Паспалітай вылучыліся добра адукаваныя, вучоныя караімы — І. Трокі /ХУІ ст./, І. Маліноускі /кан. ХУІ — пач. ХУП ст./, Зарх — сын Натана /ХУП ст./, С. Трокі /ХУП ст./, І. Кокізау /кан. ХУП — пач. ХУШ ст./, а таксама урач, матэматык і філосаф Іозус /1593—1663/.

Жыццё тракайскіх караімау не было бясхмарным. Яны як вайскоуцы гінулі на вайне, цярпелі ад разбою варожай арміі і грабежнікау, дэмаралізаваных войскау князя і караля, паміралі у час эпідэмій. Хоць і рэдка, але цярпелі ад ваяунічых фанатыкау-хрысціян. Пасля Першай сусветнай вайны і устанаулення новых граніц у Польшчы аказалася каля 250 караімау /Трокі, Вільня, Луцк, Галіч, Львоу/ і у межах Літвы каля 350 караімау. У Польшчы колькасць караімау павялічылася за кошт эміграцыі з СССР. Польскія караімы утварылі Рэлігійнае Згуртаванне, якое складалася з 4 прыходау са сваімі святарамі — газзанамі: у Троках, Вільні, Луцку і Галічы. На чале

Рэлігійнага Згуртавання стаяу гахан. Пасада гахана пасля яго абрання была дажывотнай, а сядзіба была у Вільні. У 1928 г. на пасаду гахана бну абраны Гаджы Серая Шапшал, які пасля эміграцыі з Крыма жыу у Турцыі. Заступнікам гахана бну улуг газзан і кіраунік дарадчага органа гахана, кіраунік караімскага духоунага праулення, які меу сядзібу у Троках. На гэту пасаду у 1930-х гадах бну абраны Шымон Фіркові́ч.

У Вільні было заснавана Таварыства аматарау караімскай гісторыі і літаратуры, якое з 1924 г. выдавала у Вільні свой друкаваны орган "Караімская думка", рэдактарам бну прафесар Варшаускага універсітэта імя Ю. Пілсудскага доктар навук Ананіяш Заянчкоускі. Праводзіуся збор экспанатау для стварэння караімскага музея.

Караімскія гісторыкі і лінгвісты, вывучаючы гісторыю і мову караімскага народа, надрукавалі каштоуныя і цікавыя матэрыялы пра татарау Вялікага Княства Літоускага, з якімі жылі здауна у добрым суседстве. Вядомы працы Г.С. Шапшала, А. Мардковіча, А. Шышмана, А. Заянчкоускага, У. Заянчкоускага, А. Дубіньскага, Г. Суліmовіч, Г. Кабецкайтэ, Ш. Фірковіча, С. Шышмана, Р. Фірковіча і літоуца Р. Раудалэнаса.

З пачаткам Другой сусветнай вайны тракайскія і віленскія караімы аказаліся у адной дзяржаве — Літве, пазней Літоускай ССР. Галіцкія, луцкія і львоускія караімы аказаліся у межах Украінскай ССР, крымскія караімы — у Расійскай Федэрацыі. Толькі адзінкі караімау у 1940—1941 гадах атрымалі магчымасць наведаць сваіх суплямеңнікау, якія раней жылі у Расійскай імперыі. У час Вялікай Айчыннай вайны караімы зазналі вялікія цяжкасці, ды і у пасляваенныя гады таталітарны рэжым выхоувау людзей з мэтай зліць усе народы СССР у адзіны савецкі народ. З распадам СССР і утварэннем суверэнных дзяржау частка караімау жыве у Літве, крымскія і галіцкія караімы — у Украіне, некаторая частка — у Расійскай Федэрацыі. Вялікае дасягненне караімскіх лінгвістау — выхад у свет "Караімска-руска-польскага слоуніка" /поуную назву і прозвішчы складальнікау гл. у арт. караімская мова, змешчаным у гэтым нумары "Байрама"/.

Караімскі народ славіцца багатай кухняй. У 1992 г. у Сімферопалі выйшла у свет кніга "Рецепты караимской кухни". Сабрала і абнародавала больш за 300 рэцэптау страу і напіткау

спадарыня Лебедзева Эмілія Ісакаўна. Асабліва багаты набор караімскіх другіх страў. Мяса, цеста, розныя гародніна і садавіна, зяляніна, прысмакі — вось найбольш характэрныя кампаненты, якія скарыстоўваюць для прыгатавання другіх страў караімскія гаспадыні.

Першыя блюды прадстаўлены больш чым 20 стравамі. Часта гатуюць мясныя супы /шарбасы/: этне — з грэчкай, капустай, памідорамі, салёнымі агуркамі, кіслымі яблыкамі; хамур-далма — з малюсенькімі пяльменямі-вушкамі; нагут — з гарохам. Другія блюды — іх больш за 100. Ужываецца бараніна, радзей ялавічына, мяса птушкі, зусім не ядуць караімы свініну. Страва сільмэ бастан йэмішлікнен — з мяса і гародніны; йузюм йапрак сармасы — галубцы ў вінаградных лістах; янтык — вялікі піражок з цеста і начынкай з бараніны; чыр-чыр — чабурэкі, накшталт вялікіх татарскіх калдумоў, толькі плоскія; ляпёшкі пасхальныя: кабуртык — тонкія, байрам атмэк — тоўстыя.

Караімы ўжываюць каля 20 страваў з малака і больш за 20 відаў салодчыкаў — варэння, джэмаў, халвы. Акрамя розных відаў варэння з ягад і садавіны вядомы дут — з ягад шаўкоўніцы /тутоўніку/; кизилчык — кізілавае; замбак — з пялёсткаў ліліі; гюль — з пялёсткаў ружы; тэмізленгэн ак джэвіз — з грэцкіх арахаў.

Па матэрыялах кнігі "Караімы", М., 1992 і іншых артыкулаў склала Г. Гаммал.

<u>КАТЛАМА З МАКАМ</u>, казанскататарскае печыва з прэснага цеста, а ў якасці начынкі выкарыстоўваецца мак. Цеста з пшанічнай мукі рыхтуецца як для локшыны /лапшы/, раскачваецца на стале, змазваецца маслам, пасыпаецца макам і цукрам. Складваецца напалам, зноў змазваецца маслам, пасыпаецца макам з цукрам і яшчэ раз складваецца. Затым кладуць на патэльню і памяшчаюць у печ ці ў духоўку. Папярэдне на патэльню кладуць масла. Калі катлама спячэцца, даюць ёй астудзіцца і, нарэзаўшы кавалкамі, падаюць на стол. На 500 г цеста бяруць 250—300 г маку, 100—150 г цукру, 50 г масла /для змазвання раскатанага цеста і патэльні/. Ю. Ахметзянаў.

<u>ЛЕГЕНДА ПРА САРМАЦКАЕ ПАХОДЖАННЕ ПАЛЯКАЎ</u>. У 16 ст. сярод шляхты Рэчы Паспалітай пашырылася перакананне пра сармацкае паходжанне шляхецкага грамадства. З часам ад Паволж-

скага племя сартамаў пачалі выводзіць усіх палякаў, а нават усіх славянаў. Тэорыя гэта існавала нават у свядомасці літоўскіх мусульман. Адзін з іх, апісваючы ў палавіне 16 ст. Рэч Паспалітую і яе жыхароў, сцвярджаў: "Дзяржава, у якой пасяліліся нашы продкі, называецца ў ісламскіх краінах Легістан: мясцовыя жыхары называюць яе Палоніяй і Польшчай. Займае агромністую прастору свету: з аднаго боку мяжуе з Масквою, а з другога падзішаха Рума /Турцыі/. У працах па гісторыі арабаў чытаем, што заснавальнікам гэтай краіны быў з роду Секлеба, сына Яфета. Самі /палякі/ выводзяць сябе ад нейкага заяўнічага народа ў старажытнасці /сарматаў/, ад якога ўзялі ў спадчыну мужнасць і сілу. На самой справе яны вельмі мужныя ў баях і большая частка насельніцтва мае добрую паставу, поўную жыцця і руху; сапраўды, калі яго /паляка/ бачыш на коні, што гэта жыхар благаславенных краін прарока Мухаммеда. Таму і сілы гэтай дзяржавы залежаць ад конніцы, якой могуць выставіць да ста тысяч. Весь такое войска лічыцца непераможным у баі". П. Бараўскі, А. Дубінскі.

ЛЕГЕНДА ПРА ЯНА Ш САБЕСКАГА. П а д а н н е п р а Я н а Ш С а б е с к а г а. Паводле падання асадніцтва татараў на Падляшшы, у вёсках Крушыняны і Багонікі звязана з тым, што татарам зямлю даў польскі кароль Ян Ш Сабескі. Атрымаў зямлю Самуэль /Ісмаіл/ Кязчоўскі, у 1683 г. выратаваў ад смерці Яна Ш Сабескага ў бітве пад Парканамі. Кароль у знак удзячнасці падараваў яму зямлю ў Крушынянах і званне палкоўніка. У 1688 г., калі кароль ехаў у Гродна на сойм, ён гасцяваў у свайго выратавальніка. Нашчадкі Кязчоўскага яшчэ ў пачатку 19 ст. паказвалі сваім гасцям месца і крэсла, дзе сядзеў і адпачываў кароль. Збераглісся старадаўнія ліпы, якія памятаюць пра гэты візіт караля. Паблізу ад Крушынян ёсць татарская вёска Багонікі, дзе таксама гасцяваў Ян Ш Сабескі, які наведаў ротмістра Аляеўскага, якога за мужнасць і верную службу надзяліў зямлёй, абшар які за дзень конна мог аб"ехаць ротмістр. П. Бараўскі, А. Дубінскі.

МАСЦІЦКІ Ігнацы /1.12.1867, Меганова каля Плоцка — 2.10.1946 Versoix у Швейцарыі/, выдатны хімік і тэхнолаг, прэзідэнт Польшчы у 1926—39 гадах. У час вучобы /1887—92/ у політэхнічным інстытуце у Рызе прымау удзел у польскіх сацыялістычных арганізацыях, пасля кароткага знаходжання на радзіме, пад пагрозай арышту за удзел у падрыхтоуцы на замах варшаускага генерал-губернатара, у 1892 эміграравау. Да 1897 г. знаходзіуся у Вялікабрытаніі, затым у Швейцарыі. З гэтага часу пачалося сябро у ства Масціцкага з Ю. Пілсудскім, якое пасля травеньскага перавароту прывяло іх да блізкага супрацоуніцтва. Як прэзідэнт /з 1.6.1926/ ажыццяуляу Масціцкі лінію палітыкі Пілсудскага, а пасля яго смерці /1935/ стау на чале групы палітыкау, якая знаходзілася у канфлікце з групай, што падтрымлівала маршала Рыдз-Сміглага. У час другой сусветнай вайны, калі Чырвоная Армія перайшла Савецка-Польскую мяжу, Масціцкі знайшоу прытулак у Румыніі, адмовіуся ад пасады прэзідэнта на карысць В. Рачкевіча, які у гэты час быу на захадзе і мог прадстауляць Польшчу ва урадзе у эміграцыі. Ігнацы Масціцкі выехау як прыватная асоба у Швейцарыю.

З 1922 г. Масціцкі быу прафесарам тэхналогіі хіміі і электрахімічнай тэхналогіі у політэхнічным інстытуце у Львове; пасля заваявання Польшчай незалежнасці разам з навуковай працай заняуся арганізацыяй польскай хімічнай прамысловасці /між іншым быу сярод заснавальнікау хімічнага навукова-даследчага інстытута, прычыніуся ад зацуску фабрык у Хажове і Явожне і будаунінцтва фабрыкі у Тарнове/; з 1922 г. быу дырэктарам Дзяржаунай фабрыкі азотных злучэнняу у Хажове. Масціцкі аутар больш чым 60 навуковых прац і патэнтау. Найважнейшым навуковым дасягненнем з"яуляецца распрацоука /1903—1904/ прамысловага спосабу атрымання азотнай кіслаты з паветра з дапамогай сінтэзу вокіслу азоту у электрычнай дузе. Займауся тэхнічнай праблемай нафтавай прамысловасці, распрацавау методыку раздзялення водна-алейных эмульсій, дэстыляцыі нафты і атрымання газаліну.

Як прэзідэнт дзяржавы Масціцкі займауся пытаннямі меншасцей і розных рэлігій у Польшчы. Як сябр Ю. Пілсудскага, які апекавауся над татарамі, Масціцкі заусёды знаходзіу час, каб сустрэцца з татарынам-сенатарам і татарскімі грамадскімі

дзеячамі, пабываць у мусульманскай мячэці, дапамагчы татарам у выдавецкай дзейнасці, паслаць татар у складзе польскай парламенцкай дэлегацыі у мусульманскія краіны Афрыкі, Азіі, у Боснію. У час адпачынку Масціцкі знаходзіў магчымасць пагаварыць з татарскімі дзеткамі. З дапамогай Масціцкага у Новай Вілейцы была створана вайсковая адзінка, дзе праходзілі чынную службу татары Польшчы — эскадрон 13 палка Віленскіх Уланау.

З польскіх даведнікау.

МУЗЕЙ І АРХІУ ТАТАРСКІ. Татарскі Народны Музей у Вільні, які належау Цэнтральнай Радзе Культурна-Асветнаму Згуртаванню Татарау Рэчыпаспалітай Польшчы, адчынены у 1929 г. Памяшканне прадаставіу Муфтыят. Аднак гэтае памяшканне не вельмі падыходзіла для музея і музей нагадвау хутчэй вялікую выставу. Апякун — Лявон Крычыньскі, Ён асабіста сабрау шмат вельмі каштоуных гістарычных дакументау мінулага, якія увайшлі у склад музейных экспанатау.

Экспазіцыя — з пункту гледжання на умовы экспанавання — была падзелена на 4 часткі. Да першай належалі экспанаты, якія былі развешаны на сценах. Належалі да іх рэпрадукцыі малюнкау татарскіх воінау на службе Рэчы Паспалітай з 17, 18 і 19 ст., партрэт народнага героя польскіх татарау — Аляксандра Сулькевіча, фатаграфіі яго сям"і, а таксама партрэты татарскіх дзеячау Крыма і ганаровых членау Згуртавання: праф. Юліяна Талька-Грынцэвіча і Станіслава Дзядулевіча. Цыкл завяршалі фатаграфіі Татарскага палка уланау імя Мустафы Беляка і усіх мячэтау у Польшчы.

У другім аддзеле у двух вітрынах экспанаваліся сабраныя Муфтыятам мусульманскія Кур"аны з 18 ст., перапісаныя і належаушыя мусульманскім сем"ям. Побач з гэтымі рукапіснымі Кур"анамі памешчаны былі дакументы зямельных пажалаванняу і купчых на зямлю татарамі у 16 ст., праца Дзядулевіча "Гербоунік татарскіх сямей у Польшчы", асабістыя дакументы і рэчы дзеяча Польскай сацыялістычнай партыі татарына Стафана Беляка, падборка прэсы пра генерала Мацея Сулькевіча, Аляксандра Сулькевіча і пра польскіх татарау. Акрамя гэтага экспанаваліся друкаваныя матэрыялы Ордэна піярау у Вільні, прысвечаныя жалобнаму багаслужэнню па смерці Тадэвуша Касцюшкі, якое адбылося

у Менскім кафедральным касцеле. У гэтай публікацыі была таксама рэляцыя пра малебны, якія адбыліся у памяць Касцюшкі у Менскай мячэці і тэкст казання, абвешчанага імамам Якубам Здановічам. Гэтыя экспанаты дапаўняла калекцыя арабскіх манет, якія паходзілі з розных археалагічных раскопак у Польшчы. У аддзелах трэцім і чацвертым была прадстаўлена розная польская і замежная літаратура пра выдатных крымскіх і паволжскіх татараў, а таксама матэрыялы аб гэтых народах. З прычыны малой плошчы гэтыя аддзелы не былі шырока даступнымі для наведвальнікаў.

Усе экспанаты не былі належным чынам сістэматызаваны і добра апрацаваны сцэнар выставы, бо прадстаўляла яна збор розных матэрыялаў пра татараў і мусульман без выразнага азначэння татараў Польшчы. Уласна была гэта толькі аснова будучага музея. У Татарскі музей прыходзілі нешматлікія наведвальнікі, бо абмежаваная колькасць людзей ведала пра яго існаванне. Пераважна бывалі татары з Вільні, а таксама дэлегацыі з розных аддзелаў Згуртавання. 15 траўня 1932 г. наведалі музей члены Польскага Арыентальнага Таварыства, пасяджанне якога адбылося у Вільні.

Праз два гады пасля адкрыцця музея пры ім бну створаны татарскі архіў, у якім сабралася 50 розных дакументаў з 16 і 17 ст., якія датычыліся надання татарам прывілеяў — жыхарам Кароны /Польшчы/ і Літвы.

Разам з ад"ездам Крычынскага у 1934 г. у Замасць музей і архіў засталіся без апекі і фактычна перасталі існаваць. Усе дакументы і экспанаты перанесены у сховішча Муфтыята, дзе заставаліся аж да вайны. Да гэтага часу невядомы лёс музейных і архіўных татарскіх дакументаў, якія загінулі у час вайны.

А. Міськевіч.

НУРЫ /сапр. Н у р у т д з і н а у/ Зак і Шарафутдзінавіч /н. 24.12.1921, в. Татарскія Цюкі Дрожжанаўскага раёна, Татарстан/, татарскі савецкі паэт, перакладчык твораў бел. літаратуры. Член КПСС з 1948. Удзельнік партызанскага руху на Беларусі у Айч. вайну. З 1944—46 нам. старшыні выканкама гарсавета г. Орша. У 1971—76 сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. З 1974 гал. рэдактар час. "Казан утлары" /"Агні Казані"/. Друкуецца з 1936. Аўтар зб. паэзіі "Вершы" /1945/, "Шчырая размова" /1955/, "Гэта наша кніга" /1967/, "Гады і дарогі" /1971/, "Карацей кажучы" /1974/. "Новыя сцяжыны"

/1975/, "Прыходзіць і адыходзіць вясна" /1978/, "Азоранасць" /1980/ і інш., зб. апавяданняў "І мёртвыя помсцілі" /1962/ пра партыз. барацьбу на Беларусі ў Айч. вайну. Пераклаў на татарскую мову вершы Я. Коласа /зб. "На шляху", 1962/, асобныя вершы Я. Купалы, П. Броўкі, М. Машары, А. Вялюгіна, М. Аўрамчыка /зб. "Беларускія паэты", 1968/ і інш. Ганаровы грамадзянін Орши /1975/. Узнагароджаны 2 ордэнамі, медалямі.

Тв.: Бел. пер. — Радасць сустрэч. — Мн., 1973; у кн. Дзень паэзіі, Мн., 1967, 1972; у час. — "Маладосць", 1972, № 6; рус. пер. — Память сердца. Казань, 1959; Тополиный берег, М., 1960; Радость встречь. Казань, 1962; Разговор с подснежником, М., 1967; Улыбка, М., 1969; Есть цветы у нас. Казань, 1969.

У. Саламевіч.

<u>ПАЎНОЧНАЯ ВАЙНА 1700—1721</u>, вайна Расіі, Даніі, Саксоніі, Польшчы, пазней Прусіі і Ганновера супроць Швецыі. Царом у Расіі быў Пётр I, каралём у Польшчы /Рэчы Паспалітай, якая уключала ўласна Польшчу, украінскія землі, звычайна называлі Каронай і Вялікае Княства Літоўскае — з уласна Літвою і Беларуссю/ быў Аўгуст II, каралём Швецыі — Карл XII. Баявыя дзеянні распачаліся ў Шлезвігу, Эстоніі і Інфлянтах. Шведскі кароль перамог Данію і выключыў яе з вайны, разбіў рускую армію пад Нарвай у 1700 г., перайшоў Дзвіну, заняў Інфлянты (Ліфляндыю) і Курляндыю і нанёс удар па Польшчы. У 1702 г. заняў Варшаву, Кракаў, а затым авалодаў Саксоніяй. Польскі кароль Аўгуст II вымушаны быў адрачыся ад пасады караля Рэчы Паспалітай. Хоць большасць шляхты і не любіла Аўгуста II і не аказала яму належнай дапамогі, але шведскі кароль не змог авалодаць Рэччу Паспалітай, бо польскае войска ўсё ж аказвала супраціўленне шведам. Пётр I скарыстаў тое, што асноўныя сілы Карла XII былі ў Саксоніі і Рэчы Паспалітай, умацаваў сваю армію і ў 1704 г. пад Нарвай разбіў шведскую армію. Карл XII накіраваў сваё войска ў Расію. 8.7.1709 г. на Украіне пад Палтавай ён быў ушчэнт разбіты Пятром I і выратаваўся ўцекамі ў Турцыю. Рускае войска авалодала ў 1710 г. Рыгай і Рэвелем, у 1713—14 гг. — Фінляндыяй. Да вайны супроць аслабленай Швецыі прыступілі Аўгуст II /сойм Рэчы Паспалітай зноў прызнаў яго каралём/ і Данія. Ваенныя падзеі адбываліся на Шчацінскім памор"і, якім імкнуўся авалодаць Аўгуст II. У 1713 г. Шчацін заняла Прусія,

а у 1715 г. супроць Швецыі выступіў Гановер. Пад націскам Англіі і Аустрыі, якія былі супроць узмацнення Расіі, Пётр I вымушаны быў вывесці свае войскі з Германіі і Польшчы. Пасля гібелі Карла XII у час асады крэпасці Фрэдэрыкстгаль у Зах. Нарвегіі 11.12.1718 г. Швецыя адмовілася ад пэўных тэрыторый на карысць Гановера, уступіла Прусіі Шчэцінскае памор"е, прызнала правы Даніі на Гальштынска-Гаторпскае княства. У 1721 г. Швецыя падпісала Ніштацкі дагавор з Расіяй. Вынік Паўночнай вайны — аслабленне Швецыі, якая стала другараднай дзяржавай у Еўропе, аслабленне Рэчы Паспалітай, узмацненне Расіі ў паўночнай і цэнтральнай Еўропе і пануючае становішча яе на Балтыйскім моры.

Для Рэчы Паспалітай Паўночная вайна была вельмі разбуральнай грамадзянскай вайной і надзвычай цяжкой вайной для літоўскіх татараў. Вельмі вялікую ролю ў грамадзянскай вайне адыгралі магнаты Сапегі, якія амаль у самым пачатку вайны заключылі дамову са шведскім каралём Карлам XII, а затым са шведскім стаўленікам на пасаду польскага караля — Ляшчынскім Станіславам, пазней з Патоцкім Юзафам. Кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст II апорай сваей меў курфюрства Саксонію, шляхту Польшчы, якая павінна была падпарадкоўвацца каралю /далёка не усе гэта выконвалі, нярэдка заключаючы між сабою канфедэрацыі — ваенна-палітычныя пагадненні/, невялікія татарскія фарміраванні, якія паводле прысягі падпарадкоўваліся Кароне/, войска рускага цара Пятра I, казацтва, частка шляхты Вялікага Княства Літоўскага, якая не хацела узмацнення Сапегаў.

У час Паўночнай вайны, як гэта было раней і пазней, войска не мела пастаяннага і надзейнага цэнтралізаванага забеспячэння правіянтам і фуражом для конніцы. Грошы, якія выдучаліся для войска казной, найчасцей не даходзілі да людзей, раскрадаліся военачальнікамі і інтэндэнтамі. Войска рабавала сялян, маёнткі, гарады і мястэчкі, кляштары і манастыры, нярэдка духавенства і храмы. Рабавалі "сваіх" і "чужых". Асабліва трагічным было становішча татараў. Паводле мусульманскага закону /Шарыяту/ мусульманін павінен сумленна выконваць свае абавязкі. Татары у Вялікім Княстве Літоўскім вайсковую службу выконвалі за зямельныя надзелы, з якіх жылі сем"і воінаў, а фактычным і поўным гаспадаром зямлі былі Вялікі Князь /ён

жа кароль Рэчы Паспалітай/ ці магнат, на землях якога жылі татарскія сем"і. Яшчэ цяжэйшае становішча было у татарау, якія служылі у харугвах Кароны, бо за службу яны атрымлівалі толькі плату грашыма, а казна найчасцей была пустая. Каб выратавацца ад галоднай смерці, татарскія сем"і прадавалі усю сваю хатнюю маёмасць, жабравалі і паміралі з голаду. Яшчэ трэба адзначыць, што хрысціяне патрабавалі ад татарау храбрасці і вернасці, ды трапіушы у палон, татарын не спадзявауся, што нехта яго выкупіць, бо у адзінаверцау і радні сродкау не было. Нявыносна цяжка было татарам яшчэ і таму, што яны былі у розных гаспадарou — у караля і яго супрацiунікау і павінны былі забіваць сваіх супляменнікау, нават радню. Татарам даручалі збіраць для магнатау кантрыбуцыі, якія пераможцы накладалі на заваяваныя гарады, розната роду паборы правіянту і фуражу, нярэдка проста знішчаць маёмасць, паліць пабудовы, каб нанесці як мага большую шкоду для варагавауших і ваюючых між сабою панoy. І пры перамозе на правах пераможцау, і пры паразе, імкнучыся адпомсціць татарам, палалі мусульманскія вёскі, і засценкі, гінулі людзі. Значная частка татарау, якія яшчэ уцалелі, ратуючыся ад праследу, з сем"ямі накіравалася у эміграцыю, дзе прытулак ім далі улады Турцыі, селячы эмігрантау у Малдавіі і Дабруджы. З цягам часу некаторыя з іх вярнуліся у Вялікае Княства Літоускае, але многія засталіся там назаусёды /аб гэтым сведчаць Аль-Кітабы і Хамаілы у тамтэйшых татарау/.

Ніжэй друкуем не поуныя звесткі пра тое, дзе і калі татары вымушаны былі удзельнічаць у гэтай грамадзянскай вайне:

Ліпень 1700 г. Татары у складзе войска Сапегі разам з Аугустам II пад Рыгай спрабуюць узяць горад.

19.11.1700 г. каля Алькенікау /пад Вільняй/ войска Сапегі /у ім былі татары/ пацярпелі паразу ад войска шляхты пад началам Агінскага.

19.7.1702 пад Калішам у складзе кароннага войска мужна змагалася татарская конніца са шведскай пяхотай.

У пачатку 1706 г. у баях пад Гродняй татарская конніца Сапегі змагалася з кароннымі войскам.

29.3.1706 г. польны гетман Рыгор Антоні Агінскі паслау пад Ляхавічы татарскія харугвы Ахматовіча, Азулевіча і Карыцкага на дапамогу казакам — староннікам Пятра I.

9.7.1706 г. пяць татарскіх харугваў у складзе войска Сапегі збіралі кантрыбуцыю з ваколіц Магілёва і выклікалі гнеў насельніцтва сваімі бясчынствамі.

29.10.1706 г. татарская конніца ў складзе войска С. Ляшчынскага змагалася пад Калішам з саксонцамі, рэгулярнай рускай конніцай, казакамі, калмыкамі, башкірамі і татарамі.

2.11.1708 г. крывавая бітва пад Канецполем паміж канфедэратамі і старонікамі С. Ляшчынскага. І з таго, і з другога боку была татарская конніца.

23.5.1709 г. татарская конніца з войска С. Ляшчынскага сутыкнуліся з казакамі і рэгулярнай рускай конніцай пад Вішнёўцам.

Увосень 1715 г. войска Тарнагродскай канфедэрацыі сутыкнулася з саксонскім войскам Аўгуста II, у склад якога уваходзіў татарскі полк Аляксандра Улана. П. Бараўскі.

ПРАВЫ АСОБЫ. Шарыят забараняе асобе ўсё тое, што пагражае фізічнаму, маральнаму і разумоваму стану чалавека. Іслам забараняе чалавеку ужываць алкаголь і наркатычныя рэчывы, бо ён плаціць за гэта здароўем, маёмасцю, рэпутацыяй. Шкодна чалавеку і празмернае ужыванне ежы, бо прагавітасць да яе таксама прычыняе шкоду. Некаторыя людзі становяцца рабамі свайго сексуальнага жадання. Ёсць і такія, якія адмаўляюць сабе ў нармальных фізічных патрэбах і вядуць зусім аскетычны спосаб жыцця дзе-небудзь у гарах ці джунглях і адчуваюць агіду да усіх формаў яго праяўлення. Гэта некаторыя прыклады чалавечага экстрамізму. Іслам стаіць за суладдзе людзей і збалансаванасць у жыцці. Забараняючы ўсё тое, што шкодна для чалавека, Іслам заахвочвае скарыстоўваць тое, што карысна для чалавека,— карыстацца усім чыстым, утрымліваць сябе у чысціні. Закон Ісламу забараняе нудызм /знаходжанне сярод людзей у грамадскіх месцах без вопраткі/. Ён заклікае да працы і асуджае гультайства. Дух Шарыяту у тым, што чалавек павінен выкарыстоўваць сабе на карысць усё тое, што Аллаг паслаў чалавеку, і ўсе тыя рэсурсы, якія Ён размясціў на зямлі і на небе.

Іслам не ўхваляе падаўленне сексуальных інстынктаў і раіць іх заспакаенне у шлюбе. Ён забараняе аскетызм і загадвае карыстацца камфортам і радасцямі жыцця, застаючыся пры гэтым набожным і стойкім мусульманінам. У пошуках духоўнага удасканалення, маральнай чысціні, блізкасці да Аллага і

спадзявання на будучае жыццё няма патрэбы адмаўляцца ад даброт у гэтым свеце.

Іслам забараняе самагубства і даводзіць чалавеку, што жыццё належыць Аллагу. Ён даў нам пэўны час, і мы павінны яго выкарыстаць найлепшым чынам, а не марнаваць яго неразумна.

Мусульманіну ў гэтым свеце здараюцца выпрабаванні, але ён павінен ісці па шляху, указанным Аллагам. Дарога да поспеху ляжыць праз падпарадкаванне Божаму Закону, а не інакш. Такім чынам Іслам тлумачыць, што асоба мае пэўныя правы, і абавязкам мусульманіна з"яўляецца выкананне таго, што патрабуе Шарыят. Толькі так можна быць шчырым у адносінах да самаго сябе.
А. Маўдудзі.

<u>САПЕГІ</u>, магнацкі /з 17 ст. княжацкі/ род на Беларусі, прадстаўнікі якога ў 15—18 ст. займалі вышэйшыя дзяржаўныя і ваенныя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім, другі па магутнасці /пасля Радзівілаў/ род. Паходзяць з полацкіх баяр. На Беларусі валодалі Асвеяй, Бешанковічамі, Бялынічамі, Дзярлавам, Друяй, Дрысвятамі, Дуброўнам, Зэльвай, Коханавам, Ружанамі, Свіслаччу, Старым Быхавам, Сянном, Чарэяй. У 1680—90-я г. спрабавалі стварыць самастойную дзяржаву са сваёй дынастыяй, што выклікала канфедэрацыю літоўскай і беларускай шляхты супроць іх. 18.11.1700 г. разбіты пад Алькенікамі і пазбаўлены пасад. У <u>Паўночную вайну 1700—1721</u> перайшлі на бок прыхільніка шведаў караля Ляшчынскага Станіслава. У 1917—18 гг. прэтэндавалі на трон літоўскай дзяржавы, якую хацелі стварыць Германія, падтрымлівалі сувязі з беларускім нацыянальным рухам. Найбольш вядомыя:

І в а н /1450—1517/, ваявода Віцебскі з 1511 і Падляшскі з 1513.

Л е ў /1557—7.7.1633/, пісар вялікі літоўскі ў 1581—85 гг., падканцлер літоўскі ў 1585—89 гг., канцлер вялікі літоўскі ў 1589—1623, ваявода віленскі з 1621, гетман вялікі літоўскі з 1625 г., староста слонімскі, брэсцкі, магілёўскі, адзін з арганізатараў Літоўскага трыбунала. Пад яго кіраўніцтвам закончана складанне Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588, адзін з кіраўнікоў польска-літоўскай інтэрвенцыі ў Расіі ў пачатку 17 ст., удзельнічаў у заключэнні Дэулінскага перамір"я 1618 г.

Я н  П ё т р /1589—1611/, староста Усвяцкі з 1606 г.,

удзельнік інтэрвенцыі у Расіі у пачатку 17 ст.

К а з і м і р Л е у /1609—56/, пісар вялікі літоускі з 1631 г., маршалак надворны літоускі з 1637 г., падканцлер літоускі з 1645 г., староста аршанскі, гродзенскі, слонімскі. Удзельнічау у падпісанні Палянаускага міру 1634 г., Руска-польскай вайне 1654—67, заснавау кафедру права у Акадэміі у Вільні.

П а в е л Я н /1610/?/—65/, абозны літоускі з 1638 г., падстолі Літоускі з 1645 г., ваявода віцебскі з 1646 г., віленскі і гетман вялікі літоускі з 1656 г. Удзельнік задушэння вызваленчай вайны украінскага і беларускага народау 1648—54, Руска-польскай вайны 1654—67.

К а з і м і р Я н /1637—1720/, гетман польны літоускі з 1681 г., ваявода віленскі у 1682—1703, 1705—20 і гетман вялікі літоускі у 1682—1703, 1705—08.

Гетман Вялікага Княства Літоускага Казімір Ян Сапега, які меу права вызначаць памер падаткау на утрыманне войска, празмернымі зборамі і ніштчыу сваіх паліфычных праціунікау. Ён меу сваю асабістую армію, у якой значнае месца займалі татарскія харугвы /служылі Сапегам за зямельныя надзелы, якімі яны карысталіся і утрымлівалі свае сем"і/. У 1694 г. Казімір Ян Сапега паслау свайго сына з войскам на Жмудзь супроць атраду Антона Агінскага, маршалка літоускай канфедэрацыі. У войску Сапегі было тады 10 татарскіх харугвау /у харугве 50—100 коннікау/. Сутычка з войскам Агінскага была непамыснай для Сапегі. У кастрычніку 1696 г., выкарыстаушы разарэнне царкоуных /касцельных/ зямель татарамі Сапегі, Агінскі ствараў вялікую антысапежанскую канфедэрацыю шляхты Вялікага Княства Літоускага. Гетман Сапега са значнымі сіламі наёмных іншаземцау і падуладных яму татарау накіравауся пад Брэст. Пасля каротскай аблогі горада канфедэраты заключылі дамову з Сапегам. У 1699 г. вбвастрыліся адносіны Сапегі з віленскім біскупам Канстанцінам Казімірам Бжастоускім. Маючы падтрымку у караля Аугуста II, біскуп паскардзіуся на сапежанскіх татарау за разарэнне касцельных /біскупскіх/ уладанняу. Кароль, які вельмі не любіу Сапегу, выклікау на суд, які прысудзіу Сапегу сплаціць адшкадаванне біскупу у памеры 5 тыс. залатых. Сапега, па распараджэнні якога дзейнічалі татары, каб адмежавацца ад абвінавачванняу, загадаў расстраляць двух татарскіх афіцэрау, усклаушы на іх усю адказнасць за усё тое, што адбылося.

12 лютага 1700 г. польскі кароль Аугуст II з дапамогай саксонскіх войскаў пачаў атаку на шведскія Інфлянты. Калі раптоўна захапіць Рыгу не удалося, саксонскія войскі пачалі аблогу. Кароль усё больш уцягваўся ў вайну. Гэта выкарысталі Сапегі. Хочучы залагодзіць непрыязнага ім караля, яны абяцалі яму дапамагчы сваім асабістым войскам. У ліпені 1700 г. Аугуст II накіраваўся да сваёй арміі пад Рыгу. З ім прыйшло 3 тыс. воінаў Сапегі, якія складаліся ў значнай ступені з татараў. У караля было яшчэ 1200 татарскай конніцы, якая непасрэдна належала Кароне. Гэта войска прыняло удзел у бітвах каля вусця Дзвіны. Кароль імкнуўся аслабіць Сапегу, але рабіў гэта пакрыёма, падбухторваючы тых, хто ў Вялікім Княстве быў незадаволены Сапегамі. У час зімоўкі арміі Сапегі і саксонцаў у Літве, пад Ашмянамі пачалі збірацца збройныя сілы шляхты паспалітага рушання, якія неміласэрна пустошылі уладанні Сапегаў. Пад Ліпнішкамі пры пераправе цераз р. Ашмянка было бачна, што добра вывучаная пяхота і татарская конніца Сапегі былі мацнейшымі за шляхту. Аднак 12-тысячнае войска пад началам Агінскага 19 лістапада 1700 г. пасля крывавай бітвы перамагло 5-тысячнае войска Сапегі. Збеглі Гетман Казімір Ян Сапега, яго брат Бэнэдыкт. Трэці Сапега — Міхал здаўся ў палон, але ў ноч з 19 на 20 лістапада 1700 г. быў забіты раз"юшанай шляхтай. Шляхта пачала рабаваць татарскія вёскі і засценкі, паліць будынкі і забіваць усіх, хто трапляўся пад рукі. Татарам надоўга запамяталіся падзеі пад Алькенікамі.

Пасля паражэння ў 1701 г. саксонцаў над Дзвіной, шведскі кароль Карл XII чакаў толькі на прэтэкст, каб увайсці ў межы Рэчы Паспалітай. Неўзабаве Сапегі папрасілі Карла XII аб ахове іх уладанняў у Вялікім Княстве Літоўскім. Калі увосень 1701 г. шведскае войска увайшло углыб Вялікага Княства Літоўскага, далучылася да іх прыватная армія Сапегі, у якой знаходзілася больш за 10 харугваў татарскай конніцы. Пра далейшыя падзеі і чыны Сапегаў гл. у арт. Паўночная вайна 1700—1721.

А. Грыцкевіч, П. Бараўскі.

САРАНЧОВЫЯ /Acrididae/, надсямейства насякомых атрада простакрылых падатрада караткавусых. Паводле слоўніка Шыпавай слова с а р а н ч а цюркскага паходжання. На свеце існуе каля 10 тысяч відаў гэтых насякомых, каля 500 відаў іх

існуе даволі блізка ад Беларусі, паводле летапісных звестак часам саранча прычыняла вялікую шкоду на нашых палетках.

Даужыня цела дарослага насякомага да 6 см, вусікі кароткія, ротавыя органы грызучыя, заднія ногі доугія з патоушчанымі сцёгнамі, звычайна 2 пары крылау. Засяляюць пераважна адкрытыя мясціны. Яйцы кладуць у глебу кучкамі. Расліназедныя. Развіццё з няпоуным ператварэннем. Паводле спосабу жыцця адрозніваюць нястаткавыя саранчовыя /кабылкі/ і статкавыя /саранча/. Найбольшае сямейства сапраудных саранчовых /Acrididae/, якое уключае статкавыя віды — небяспечныя шкоднікі сельскай гаспадаркі: пералётная саранча /Locusta migratoria/, пустынная саранча /Schistocerca gregaria/, мароккская саранча /Dociostaurus maroccanus/, нястаткавы від сібірская кабылка /Gomphocerus sibiricus/. Меры барацьбы: апыльванне ядамі і апрыскванне растворамі ядау /з дапамогай авіяцыі/, рассейванне атрутных прынад.

З кнігі "Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя".

---

Саранча упамінаецца у Бібліі як 8-я казнь, насланая Богам на Фараона, цара Егіпецкага. Збіраецца у чароды з накалькіх дзесяткау мільярдау пражэрлівых насякомых, кожная з якіх за адзін дзень паядае расліннай масы у дзесяць разоу больш, чым важыць сама. З ветрам пералятае з Паудлёвай Амерыкі у Афрыку, часам далятае да пауночнай часткі Вялікабрытаніі.

Вядома, што яшчэ да нашай эры жыхары Афрыкі і Аравійскага паувострава ужывалі саранчу у ежу, кармілі арабскіх скакуноу. У Японіі з саранчы рыхтуюць далікатэсы, а кансервы са смажанай сранчы японцы прадаюць у Еуропе. Небяспека нашэсця саранчы на асобныя краіны, голад выкліканы гэтым бедствам, патрабавалі весці барацьбу з гэтымі насякомымі там, дзе яны нараджаюцца /выводзяцца/.

СУЛЬКЕВІЧ /Тузман-Мірза-Сулькевіч/ Аляксандр /Алі/ псеуданімы Міхал, Чорны, Робарт /3.12.1867, Скірсаболі Татарскія на Сувальшчыне — 18.9.1916, каля Сітовічау на Валыні/ дзеяч ППС /Польскай партыі сацыялістычнай/, татарын. У 1877—92 у Пралетарыяце, удзельнік парыжскага з"езда /1892/ ППС, на якім была заснавана партыя, у 1895—97, 1899—1905 член цэнтральнага камітэта партыі, адзін з галоуных арганізатарау дзейнасці партыі /у тым ліку дастаукі у рускую Польшчу

нелегальнай літаратуры, друкаваных выданняў і друкарскага абсталявання, зброі/. Пасля разлому /1906/ партыі стаў адным з кіраўнікоў ППС-Фракцыі рэвалюцыйнай, блізкі паплечнік Ю. Пілсудскага. З 1905 г. у Галіцыі, адзін з арганізатараў вайскова-незалежніцкага руху, дзеяч Арганізацыі чыннай барацьбы, а ў час Першай сусветнай вайны загінуў на фронце як падафіцэр Польскага легіёна. У 1933 г. па ініцыятыве віленскіх татараў была створана камісія для перазахавання А. Сулькевіча на могілках Павонзкі ў Варшаве. Урачыстасць перазахавання адбылася 8.9.1935 г. з удзелам кіраўнікоў дзяржавы, сярод якіх быў Маршал Польшчы Рыдз-Сміглы.

З польскіх даведнікаў.

СЮМБІКЕ БАШНЯ, архітэктурны помнік Крамля ў Казані, своеасаблівы сімвал горада. Складзена з чырвонай цэглы сяміярусная, башня вышынёй да 58 м /70 м над узроўнем ракі Казанкі/. Ніжнія тры ярусы прамавугольнай формы. Яны завяршаюцца адкрытымі кругавымі тэрасамі з невысокім парапетам па краях. Першы ярус, які займае плошчу 140 кв.м, мае праезныя вароты. Сценкі каля варотаў афармлены калонамі, завершанымі, як і ў булгарскіх пабудовах, капітэлямі ў выглядзе кансоляў-сталактытаў. Чатыры верхнія паверхі васьмігранныя, пры гэтым шосты мае характар усечанага шатровага пакрыцця, завершанага таксама васьміграннай дазорнай вышкай-ліхтаром. Апошняя нагадвае завяршэнне татарскіх мячэцяў як цагляных, так і драўляных.

Археалагічныя даследаванні, якія праведзены каля фундамента башні, паказалі, што ён закладзены ўжо пасля 1552 г., таму час заснавання гэтага выдатнага збудавання трэба лічыць 17 ст., магчыма 1645 г., як аб гэтым пісаў татарскі асветнік Каюм Насыры. Разам з тым булгара-татарскія паралелі даюць падставы меркаваць удзел у будаўніцтве і татарскіх майстроў.

Назва башні звязана з казанскай царыцай Сюмбіке — дачкі нагайскага мурзы Юсуфа і жонкі трох апошніх казанскіх цароў: Джан-Алі, Сафа-Гірэя і Шах-Алі. Яна была прывезена ў Казань у 1532 г. і тут знаходзілася да 1551 г., калі разам з малалетнім сынам Уцямыш-Гірэем была адпраўлена ў Маскву. Паводле падання "народ казанскі з вялікай скрухай праводзіў царыцу, мячэць жа, дзе быў пахаваны яе любімы муж Сафа-Гірэй, была названа мячэцю Сюмбіке. Магчыма, астаткі мячэці знахо-

дзіліся побач з пабудаванай пазней башняй, на якую і перайшла яе назва.

Ёсць яшчэ адна легенда, паводле якой Сюмбіке папрасіла дазволу узняцца на самы верх башні, каб агледзець горад і развітацца з яго гараджанамі. Калі царыца узнялася на башню, то, не маючы сіл развітацца з стаўшым ёй блізкім і родным горадам, яна кінулася стрымгалоў на вострыя камяні. Народ у памяць аб апошняй казанскай царыцы назваў башню яе імем.

Цяпер сілуэт башні часта выкарыстоўваюць як архітэктурную эмблему горада — яго мы бачым на паштоўках, значках, сувенірных вырабах.

З кнігі "Казань", 1977.

ТУРУХТАН /Philomachus pugnax/, птушка сямейства бакасавых атрада сеўцападобных. Паводле слоўніка Шыпавай слова т у р у х т а н цюркскага паходжання. Пашыраны ў Еўразіі. Трапляецца ў тундры, радзей ў лесатундры і іншых раёнах, у паўночных раёнах Украіны і на поўдні Заходняй Сібіры. На Беларусі звычайны пралётны і гняздоўны від, найбольш шматлікі ў Беларускім Палессі. Жыве на балотах, у поймах рэк, на забалочаных сенажацях. Корміцца беспазваночнымі, пераважна насякомымі. Палявунічае значэнне невялікае. Народная назва — б а т а л ь ё н.

Даўжыня цела 28—33 см, маса 95—230 г. Самцы значна буйнейшыя за самак, у шлюбным убранні адрозніваюцца ад іх апярэннем. Вясной у самцоў па баках патыліцы і пярэдняй частцы шыі падоўжаныя пёры утвараюць так званыя "вушкі" і "каўнер", афарбаваныя ў розныя колеры /часцей рудаватыя, рабыя або чорна-сінія з фіялетавым ці пурпуровым адценнем; радзей белыя або бела-вохрыстыя/. Пярэдняя частка галавы не апераная і пакрыта жоўтымі барадаўкамі. Самкі зверху шаравата-бурыя, знізу белыя; шыя і грудзі зеленавата-алівукавыя. У пазашлюбны перыяд самец і самка афарбаваны аднолькава. Дзюба і радужына цёмна-бурыя. Ногі зеленавата-жоўтыя або аранжавыя. Першымі ў красавіку прылятаюць самцы, пазней самкі. Палігамы. Шлюбныя гульні /таказанні/ пачынаюцца ў траўні на сухіх узвышаных месцах, калі зазеляное трава. Самцы /ад некалькіх да сотні і больш/ распушаюць апярэнне, прымаюць розныя позы, бегаюць і накідваюцца адзін на другога без голасу. Гняздо — ямка на купіне, выстланая лісцем і раслінным рэшткамі, зауседы добра закрыта

навіслай травой. Кладку з 3—4 аліукавых або аліукава-зялёных яец самка наседвавае 20—21 сут. Самцы не прымаюць удзел у клопатах аб патомстве. Лётныя птушаняты трапляюцца увесь жнівень і у верасні, трымаюцца вывадкамі, пералётныя чародкі вяртаюцца у верасні. Зімуе у Афрыцы, Паудн ёвай Азіі. А. Фядосау.

---

УЛУГБЕК Мухаммед ібн Шахрух ібн Цімур Улугбек Гурган /22.3.1394—27.10.1449/, узбекскі астраном і матэматык. Унук Цімура. З 1409 г. быу прызначаны правіцелем Самарканда, а у 1447 г. атрымау у спадчыну упрауленне краінай. Пры ім былі пабудаваны медрэсе у Бухары, Самаркандзе і Гіджуване. Гэтыя і іншыя будынкі, таксама мячэці і караван-сараі сталі сапраудными шэдэурамі горадабудаунічага мастацтва. На выкладчыцкую працу у медрэсе Улугбек запрасіу славутых вучоных. Галоунай справай Улугбека стала узвядзенне абсерваторыі і астранамічныя даследаванні. Гэта быу час росквіту сярэдневяковай астраноміі. У мусульманскіх навуковых цэнтрах ужо у 9—11 ст. займаліся вызначэннем памерау Зямлі /вучоныя Багдадскай абсерваторыі ал-Біруні/, вывучэннем руху Месяца, планет, уяунага руху Сонца /ал-Баттані, Абу-л-Вафа, Ібн Юніс/, складаннем зорных каталогау /ас-Суфі, ал-Біруні/, удасканаленнем календара /Хаям Умар/. Будаунііцтва Самаркандскай абсерваторыі, устаноука абсталявання занялі 8 гадоу і былі завершаны у 1425 годзе. Гэта быу трох"ярусны будынак вышынёй больш за 30 м. Гэтай абсерваторыі не было роунай у свеце. У ёй працавалі выдатныя астраномы — Джамшыд аль-Кашы, Казі-задэ ар-Румі і Алі ал-Кушчы, якія выканалі значныя даследаванні. Галоуная праца школы Улугбека — "Зідж-і джадзід-і Гурагоні" /"Новыя Гурганскія астранамічныя табліцы"/ — заключаюць тэарэтычныя асновы астраноміі і каталог з каардынатамі 1018 зорак. Табліцы Улугбека амаль 200 гадоу заставаліся неперауэыйдзенымі па дакладнасці і шмат разоу перавыдаваліся /у 1665 г. у Оксфардзе у Вялікабрытаніі/. У гісторыю астраноміі увайшлі таксама табліцы планет і вызначэнне нахілу экліптыкі да экватара і гадавой прэцэсіі. Улугбек унёс значны уклад у матэматыку: распрацавау алгебраічны метад, з дапамогай якога складалі табліцы з высокай ступенню дакладнасці, у тым ліку геаграфічныя, каляндарныя, трыганаметрычныя.

Заняткі Улугбека навуковай і асветніцкай дзейнасцю па-

кідалі мала часу для дзяржаўных спраў. Супроць яго выступіў старэйшы сын Абу ал-Латыф. Пасля гібелі Улугбека яго абсерваторыя была разбурана.

БелСЭ, т. 10, газета "Минарет", 1994, № 11.

<u>ЯН Ш САБЕСКІ</u> /17.8.1629, Олеск — 17.6.1696, Вляноў/, кароль Польшчы з 1674 г., сын Якуба, рускага ваяводы і Зофіі Тэафілі з Даніловічаў, унучкі гетмана С. Жулкеўскага/. Вучыўся ў Кракаўскай Акадэміі, затым удасканальваўся ў навуках у час двухгадовага знаходжання ў Францыі, Германіі, Нідэрландах і Англіі. Вялікае ўражанне зрабіла на яго знаходжанне пры французскім двары. На радзіму вярнуўся ў 1648 г. і на чале ўласнай харугвы прымаў удзел у Забароўскай /1649 г./ і Берастэчкаўскай /1651 г./ кампаніях, у час якой быў цяжка паранены. У час шведскай навалы перайшоў з іншымі на бок Карла Густава /1655 г./, але неўзабаве пакінуў шведаў і прымаў удзел у вайне са шведскімі наезнікамі. Пад началам С. Чарнецкага прымаў удзел у вайне з Масквой і казакамі; зблізіўся пасля з дваром Яна Казіміра і Марыі Людвікі. У 1665 г. быў прызначаны маршалам польскага каралеўскага войска, у 1666 г. — гетманам польным. Праславіўся сваімі перамогамі над туркамі пры Хаціне /1673 г./ і пад Львовам /кампаніі 1674 і 1675 у саюзе з Расіяй/. У 1683 г. аб"яднаныя польскія і аўстрыйскія войскі на чале з Сабескім разгромілі турэцкую армію ў бітве пад Венай і тым самым папярэдзілі небяспеку новых турэцкіх заваяванняў у Цэнтральнай Еўропе. У 1686 г. Сабескі заключыў з Расіяй "вечны мір". Карыстаўся падтрымкай шляхты. Імкненне Сабескага увесці ў Рэчы Паспалітай спадчынную манархію не здзейсніліся з-за процідзеяння польскіх магнатаў, Аўстрыі і Брандэнбурга.

Ян Ш Сабескі па-дзяржаўнаму разабраўся з прычынамі Ліпкаў бунту, у выніку якога частка каронных татараў перайшла на бок турэцкага султана. У сакавіку 1677 г. канстытуцыя пацвердзіла татарам даўнія правы і прывілеі. Быў прызнаны доўг кароны татарам за службу ў памеры 10 тыс. злотых, а з прычыны адсутнасці сродкаў у казне, татарам было дадзена 526 валок зямлі, пераважна ў Падляшшы. Паводле татарскай традыцыі /паданья, якое не пацверджана дакументальна/ 7.9.1683 г. татарскі ротмістр Самуэль Крачоўскі ў бітве пад Пірканамі ўратаваў жыццё караля-гетмана Сабескага. У 1688 г. Ян Сабескі ў час падарожжа ў Гродна наведаў свайго выратавальніка і ўзнагародзіў яго маёнткам у Крушынянах.

Я. Мацiасускі.

## АГЛЯД ЧАСОПІСАЎ БЕЛАРУСКІХ МУСУЛЬМАН

Прайшло амаль ужо пяць гадоу з таго часу, як выйшау у свет першы нумар квартальніка Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" — "Байрам" Пры удзеле і намаганнях рэдактарскай групы ў складзе І.Александровіч, Яугена Гучка, І. Канапацкага, В. Садыкавай, Г. Фатыхавай і інш. за гэтыя гады выйшла ужо 15 нумароу. Выдание прызначана для татар, якія пражываюць на Беларусі. Але ужо сёння можна зазначыць, што "Байрам" мае значна шырэйшае кола чытачоу, бо тыя грунтоуныя звесткі, якія у ім прыводзяцца, з"яуляюцца вельмі цікавымі для тых, хто хоча спасцігнуць гісторыю свайго краю, свайго народа. У прадмове да выхаду у свет першага нумару квартальніка яго галоуны рэдактар Я. Якубоускі паведамляу чытачам, што тут найперш будуць давацца матэрыялы пра асновы Іслама, гісторыю беларускіх татар, татар іншых краін, іх заняткі і г.д. Як паказау аналіз усіх нумароу, выйшаушых у свет, гэта умова рэдкалегіяй не толькі выконваецца спауна, але і у многім перавыконваецца, бо з кожным нумаром матэрыялау становіцца усё больш, пры чым на самыя разнастайныя тэмы, паляпшаецца іх якасць. Наогул так і патрэбна, з цягам часу рэдактарскі калектыу набывае большы вопыт як у журналісцкай, так і у выдавецкай справе.

Пра гэты часопіс было ужо некалькі артыкулау з аналізам, заувагамі, пажаданнямі, пагэтаму сёння я звярнуся толькі да некалькіх апошніх нумароу квартальніка.

У першым і другім нумарах даволі значная частка матэрыялау прысвечана 50-годдзю Перамогі у Вялікай Айчыннай вайне. Цікавасць,напрыклад, выклікае артыкул В. Быкава "Горкі смак Перамогі", перадрукаваны з "Народнай газеты", а таксама такія як "Польшча у другой сусветнай вайне", скампанаваныя І. Меметавым, "Успомніце што-небудзь пра Казань у дзень 50-годдзя Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі", успаміны аб аутарах, якія прымалі удзел у апошняй вайне, набліжалі яе перамогу. Гэта — "Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны родам з Клецка" /успаміны доктара хімічных навук Х.М. Александровіча/, "Ветэран Вялікай Айчыннай вайны Фатыхау Ахмет-Сафа Фатыхавіч жыве на Беларусі у г.п. Крупкі", "Мая зямлячка і яе лёс" І. Меметава, "Доктар Т.Х. Хамідуліна", "Жанчына-татарка —

маёр войска Польскага" А. Крыніцкага і інш.

Зразумела і тое, што рэдакцыя "Байрама" з нумара у нумар імкнецца знаёміць чытачоу з гісторыяй беларускіх татар, іх каранямі. Так, друкуюцца артыкулы "Татары у Вялікім Княстве Літоускім" з кнігі "Живописная Россия" вядома даследчыка мінуушчыны А. Кіркора, жаночых упрыгожаннях казанскіх татар сярэдзіны XIX — пач. XX ст. С. Суславай, аб гісторыі літоуска-татарскіх роду сучаснага даволі вядомага даследчыка, аутара шэрагу цікавых прац С. Думіна, "Да пытання пра ландшафтна-планіровачную структуру забудовы татарскай слабады у Менску канц. XIX — пач. XX ст." А. Лакоткі, "Джучидские дирхемы в Великом княжестве Литовском" Ш. Бекцінеева і інш.

Цікавай, на мой погляд, з"яуляецца падборка матэрыялау аб гісторыі татар Браслаушчыны. Яны даволі змястоуныя, маюць цікавыя звесткі, пры чым не толькі для татар, але і для усіх, каму неабнякавы лёс свайго краю. Хацелася б, каб гэтая падборка не была адзінай і апошняй, а мела працяг па іншых рэгіёнах больш-менш кампактнага пражывання татар. У першым і другім нумарах ідзе працяг друкавання матэрыялау і артыкулау для стварэння энцыклапедычнага даведніка, пра татар-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы. Гэтыя матэрыялы, як мне здаецца, з"яуляюцца даволі грунтоуным і навуковымі даследаваннямі і нясуць досыць цікавую і змястоукую інфармацыю па многіх пытаннях.

Добрую справу робіць выдавецкі калектыу, працягваючы друкаваць і крымскататарска-беларускі слоунік, а таксама тэкст свяшчэннай мусульманскай кнігі "Кур"ан". Усё гэта у многім павінна спрыяць далучэнню часткі татар, асабліва моладзі да роднай мовы, да рэлігіі іх дзядоу і бацькоу.

З вялікай цікавасцю чытаюцца і іншыя матэрыялы — пра дзеячоу, што выйшлі з татарскага асяроддзя, успаміны, інфармацыі і паведамленні, лісты з месц і інш. Гэта такія артыкулы, як "Генерал-лейтэнант Якуб Юзэфовіч" А. Крыніцкага, "І бачылі нашы людзі, хто ім брат" В. Грыневіча, "З успамінау С. Ясінскага", Р. Александровіч, "Другая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя" І. Канапацкага і інш.

Выклікае павагу да выдаУцоу квартальніка і тое, што яны імкнуцца /хаця і не заусёды гэта ім удаецца/ павялічыць кола аутарау, прычым не толькі з татарскага асяроддзя. На старонках квартальніка выступалі гісторыі А. Грыцкевіч, Г. Кахаоускі,

Э. Іофе, Л. Панічава і інш. Рэдкалегія не цураецца, а наадварот ідзе на дыялог з чытачамі, пры чым розных палітычных поглядаў.

З чэрвеня 1994 г., згодна з пажаданнямі большасці чытачоў квартальніка "Байрам", пачаў выходзіць і другі часопіс згуртавання "Аль-Джихад", што па арабску значыць "Барацьба". Праўда, пад такой назвай выйшаў толькі адзін нумар і ўжо з наступнага ён меў назву "Ал-Ислам" /"предание себя Богу", "покорность"/. Змена назвы, як сведчыць зварот да чытачоў, а таксама была згодна з іх пажаданнямі. Пры гэтым, як бачна са звароту ў першым нумары, згодна з настойлівымі пажаданнямі "кавказских, ближневосточных, пакистанкских западно-и центральноафриканских мусульман", квартальнік выдаецца на рускай мове. Выйшла за гэтыя месяцы ўжо 10 нумароў. Адразу трэба адзначыць, што тую мэту, "помещать материалы о толковании аятов нашей священной книги — Кур"ана, о высказываниях и делах пророка Мухаммеда /мир ему и милость Аллаха/ — Хадисах, молитвы из Хамаилов, главы из Аль-Китабов, вопросы мусульманской этики и педагогики.../, якую ставіў перад сабой рэдакцыйны Савет /дарэчы амаль у тым жа складзе/ як мне здаецца, з поспехам выконвае. Акрамя раскрыцця тых праблем, якія зыходзяць з вышэйазначанай мэты, тут друкуецца і шэраг іншых цікавых матэрыялаў /праўда не заўсёды на карысць якасці/, звязаных са знамянальнымі падзеямі, гісторыяй краю, беларускай і татарскай літаратурай і інш.

Адразу ж трэба зазначыць, што часопіс, асабліва з трэцяга нумару ў многім змяніў сваё аблічча, стаў, калі можна так сказаць, больш якасным у эстэтычна-выдавецкім плане, а гэта немалаважна, з"явіліся новыя рубрыкі -- "Да 50-годдзя Перамогі", "запрашаем да сур"ёзнай гаворкі", "хроніка, падзеі, людзі", пошта "Аль-Ислама", "літаратурная старонка" і інш. Аналізуючы матэрыялы, прыходзіш да высновы, што рэдакцыйны калектыў з нумару ў нумар набывае ўсё больш вопыт, пашырае дыяпазон друкуемых матэрыялаў, яны становяцца больш грунтоўнымі і глыбокімі, расце кола аўтараў. Акрамя матэрыялаў рэлігійнага, духоўнага характару, як напрыклад "Кур"ан. Сура № 88", "Аль-Шашыят", "Абавязкі мусульманіна", "Сура "Аль-Фатиха", "Сорок хадисов Ан-Навави", "Хадисы", "Загробная жизнь Ахират", "Тафсир". Сура "Землетрясение" і многія

інш., што і павінен у аснове даваць чытачам квартальнік, зыходзячы з пастаўленай мэты, тут друкуюцца, як ужо падкрэслівалася і іншыя матэрыялы. Вялікую цікавасць выклікаюць, напрыклад, артыкулы, прысвечаныя 50-годдзю Перамогі у Вялікай Айчыннай вайне, асабліва артыкулы Я. Якубоўскага "Вайна супраць германскага фашызму гэта быў джыхад", І. Меметава "Памяць", Э. Іофе "Удзел татар у Вялікай Айчыннай вайне на тэрыторыі Беларусі", Х. Александровіча "Паувекавы юбілей" і інш.

Найбольшую увагу рэдсавет квартальніка стаў надзяляць паведамленням з месц, з жыцця мясцовых татарскіх абшчын. З гэтага пункту гледжання тут больш цікавымі з"яўляюцца падборкі І. Александровіча "Падарожжа па мусульманскіх абшчынах і месцах супольнага пражывання татар", "Арганізацыя мусульманскай абшчыны у Ашмянах", "Выбары імама у Іу'і", Дз. Чымбаевіча "Трэці мухайем мусульманскай моладзі Беларусі" і г.д. З задавальненнем перачытаў матэрыялы і з гістарычнай рубрыкі, такія як "Літоўскія татары і арабскі алфавіт", І. Самайловіча, "Некаторыя матэрыялы аб гісторыі Залатой Арды" І. Канапацкага, "Хроніка пасялення татар-мусульман на слонімскай зямлі" М. Радзецкай, "Да гісторыі татар" С. Гараднова, "Пра Клецк і клецкіх татар" Л. Шпілеўскага і інш.

Мяркую, што рэдсавет робіць добрую справу, спрабуючы увесці на старонках часопісах і матэрыялы на як бы медыкасацыяльныя тэмы, зыходзячы покуль яшчэ з чыста нацыянальна-традыцыйных падыходаў. З вялікай цікавасцю чытаюцца такія матэрыялы, як "О водке и свинине", "Спиртной напиток и его вред для здоровья общества", "Напиток батыров", "Самая большая опасность, которая угрожает человечеству" і інш. Артыкулы цікавыя і карысныя ва усіх адносінах і не толькі для татар, але і для тых, хто імкнецца весці здаровы лад жыцця. Мяркуецца што у часопісе з"явіцца пастаянная рубрыка па гэтай тэматыцы, дзе будуць друкавацца матэрыялы больш шырокага дыяпазону, з удзелам прадстаўнікоў як афіцыйнай, так і нетрадыцыйнай медыцыны.

Зусім правільна робіць рэдсавет квартальніка, рыхтуючы літаратурную старонку. З вялікай цікавасцю чытаюцца і успрымаюцца нават неяк па-новаму іменна у гэтым часопісе творы М. Джаліля, Ф. Фаізава, Г. Тукая і інш. Шкада толькі, што старонка покуль эпізадычная, а яна павінна атрымаць сталую

прапіску, што несумненна будзе прывітальна сустрэча чытачамі.

Даволі цяжкую /гэта ужо паказау вопыт шэрагу іншых часопісау/ справу узялі на сябе выдаўцы, увёушы такі раздзел як "вывучаем арабскую мову". Справа неабходная асабліва для юнацтва, якое павінна ведаць святую мову продкау, тым больш, што захады такія былі ужо зроблены у "Байраме" і сёння хочацца пажадаць толькі поспехау тым, хто арганізуе такую вучобу і тым, хто навучаецца.

Як і усе міралюбівыя людзі, выдаўцы часопіса не застаюцца у баку і ад "гарачых" кропак планеты: Чачні, Крыма, былой Югаславіі і інш. Аб гэтым сведчаць вельмі эмацыянальныя, пранікаючыя глыбока у душу артыкулы, звароты, агляды па гэтай хвалюючай праблеме сённяшняга часу.

Што тычыцца часопіса "Рамазан", то пакуль выйшау яго толькі адзіны нумар у 1994 г. Але дэталёва прааналізавауўшы яго змест бачна, што ён прыйдзецца да спадобы чытачам. Выхад гэтага часопіса, як падкрэсліваюць самі выдаўцы, "скромная попытка предоставить читателю возможность найти ответы на вопросы, связанные с исламской религией". І сапраўды, большасць надрукаваных тут матэрыялау, прысвечана розным аспектам ісламскай рэлігіі — "Саум-большой пост", "пятничные проповеди", "распространенные ритуальные упоминания имени Аллаха и призывы к нему", девять "нельзя" в этикете мусульманина і г.д. /часопіс выдаецца на рускай мове/. З цікавасцю чытаюцца і такія матэрыялы, змешчаныя у часопісе, як "Мусульмане Беларусі" І. Канапацкага, "З"езд татар-мусульман Беларусі" І. Александровіча, тлумачэнне слоу, размова з прэзідэнтам Беларускага аб"яднання татар-мусульман "Аль-Кітаб" Б.І. Шабановічам і інш.

На выснове такога кароткага аналізу выходзячых часопісау беларускіх татар, не мінаючы вельмі многа станоучага, аб чым гаварылася вышэй, хацелася б усё ж выказаць і некалькі вельмі асабістых пажаданняу рэдактарскім калектывам на будучае. Папершае, усё ж патрэбна вызначыцца са статусам кожнага часопіса і імкнуцца не адыходзіць ад тых мэтау, якія ставяцца на пачатку/каб не ператвараць часопіс у зборнік/. Дарэчы, больш выгадна у гэтым сэнсе адрозніваецца часопіс "Аль-Іслам". Далей, аналіз паказвае, што часопісы,усе нумары іх рыхтуюцца у асноўным аднымі   і тымі людзьмі, што прыводзіць у некато-

рых месцах да паутораў, панаванне адных і тых жа думак, стэрыатыпных падыходаў да кампаноўкі матэрыялаў. У гэтай сувязі, мне здаецца, што патрэбна больш крапатлівая работа па пошуку аўтараў з месц, па пашырэнню сеткі карэспандэнтаў непасрэдна з абшчын і г.д. У некаторых нумарах, як мне падаецца, вельмі многа матэрыялаў-перадрукаў з іншых газет і часопісаў. Мяркую, што В. Быкаў — згадзіўся б асабіста напярэдадні Дня Перамогі даць у "Байрам" некаторыя свае разважанні, як, дарэчы, і многія іншыя. І апошняе, здаецца, што трэба друкаваць больш матэрыялаў для дзяцей, моладзі. Спроба такая ёсць у нумары трэцім "Аль-Іслама" у выглядзе рубрыкі "Дзецям аб Кур"ане". Можа варта падумаць /ведаю, што у сучасных умовах гэта архіскладана/ аб тым, каб зрабіць такую рубрыку пастаянна, ці наладзіць асобнае выданне, хаця б разы са два на год для дзяцей і моладзі. Не трэба забываць і аб жанчынах — хатніх гаспадынях, рэцэптах традыцыйных страў і г.д.

Тым не менш, трэба зазначыць, што рэдакцыйны Савет часопісаў у наш вельмі і вельмі складаны палітыка-эканамічны час, пераадольваючы многія цяжкасці, робіць вельмі высакародную і патрэбную справу /на колькі мне вядома, чыста на грамадскіх пачатках/ па свайму адраджэнню і за гэта ім трэба сказаць вялікае дзякуй. Л. Шкуцько.

---

## " АПОВЕСЦЬ ПРА БАТЫРА ГАМЗУ "

Поўная назва па-арабску кнігі -- Кіссат аль-амір Гамза ал-Бахлаван аль-Кахіра. На рускай мове кніга надрукавана у Маскве у выдавецтве "Навука" у 1990 годзе. Пра гэту аповесць у мяне спытаў мой сябр — беларускі татарын Ібрагім. Я чуў пра такую сіру -- своеасаблівы жанр ранняй мусульманскай гістарыяграфіі -- апісанне жыцця славутага чалавека. Гэта арабскі народны раман распавядае пра народнага Героя -- батыра Гамзу. У сябе на радзіме я не прачытаў гэту сіру як не паспеў прачытаць і яшчэ многа іншых цікавых твораў. Так што я вельмі удзячны сябру Ібрагіму за тое, што ён падараваў мне гэту кнігу.

Герой гэтай сіры Гамза -- дзядзька прарока Мухаммеда /мір і міласць яму ад Аллага/, сын Абу аль-Мутталіба ібн Хашыма. Побач з мужчынам і высакародным Гамзой паводле гэтай сіры дзейнічае Амар — сын раба і афрыканскай жанчыны, які

( працяг гл. на старонцы 113 )

## У НАС ПЫТАЮЦЬ, З НАМІ РАЯЦЦА, НАМ ДАЮЦЬ ПАРАДЫ

Сям"я Каміля з Брэста просіць расказаць, ці праўда што ў Чэрвеньскім раёне татары будуюць мячэць і якія яны, гэтыя татары.

Адказ: Праўда. Мячэць ужо амаль гатова. У наступным нумары "Байрама" мы раскажам пра гэту падзею. Гісторыкі Канапацкія ўзяліся напісаць пра смілавіцкіх татар Чэрвеньскага раёна. Як толькі яны дадуць нам рукапіс — тут жа надрукуем.

Мустафа з Чэрвеньшчыны не раіць "Байраму" часта і на многіх старонках друкаваць пра тое, аб чым людзі ведаюць ужо больш чым стагоддзе таму. Можа лепш было б напісаць аб тым, дзе, калі і аб чым друкавалі пра татар у кнігах і часопісах да рэвалюцыі і да Вялікай Айчыннай вайны.

Адказ: Маеце рацыю, Мустафа. Здагадваемся аб тым, што Вы навуковец. Чакаем ад Вас матэрыял для "Байрама", з якога нашы чытачы даведаюцца, адкуль чэрпаць патрэбныя і цікавыя звесткі пра татар.

Зулейха з Віцебска раіць "Байраму" рабіць спецыяльныя выпускі, дзе б былі цікавыя перадрукі са старых выданняў, а таксама хоць бы кароткія звесткі пра татараў, пра часопісы і кнігі, у якіх друкавалі аб мусульманах, у тым ліку і літоўскіх.

Стэфан з Пастаўшчыны хоча прапанаваць некалькі артыкулаў для энцыклапедычнага даведніка "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы".

Адказ: Паважаны Стэфан! Да артыкулаў у даведнік мы ставімся так, як бацькі да дзяцей. Што Бог даў, тое і гадуем /тое і друкуем/.

Апанас з Рагачова пытаў у нас аб тым, ці праўда, што ад татараў на Русі пайшлі словы лаянкі.

Адказ: Просім прабачэння, што ўжо больш чым дзевяць месяцаў не давалі адказу на гэтае пытанне, хоць адразу хацелі сказаць: не, няпраўда. Словы лаянкі, як бы яны ні гучалі, забараняюцца нашай верай —Ісламам. Калі ў месяц Рамазан мусульманін хоць раз вылаецца, то пост не будзе прыняты Аллагам. Мы недзе чыталі, што адзін рускі даследчык пісаў пра рускую лаянку і адкуль яна пайшла, а англійскае выдавецтва выпусціла нават кнігу пра брыдкія словы, якія ўжываюць у

Расіі. Пастараемся у наступным нумары "Байрама" надрукаваць адказ Апанасу і усім тым, хто не хоча мірыцца з дрэннымі словамі і выразамі.

Эмір з Маладзечна раіць рэдакцыі "Байрама" падумаць пра тое, як татарам найхутчэй даведацца аб паходжанні свайго прозвішча і роду, ну хоць бы з даведніка Станіслава Дзядулевіча. Эмір піша, што ксеракопія адной старонкі кнігі каштуе больш за 600 рублёу, а нярэдка у тым даведніку пра род татарскі напісана не адна старонка. Ды і перасылка нешта каштуе. Можа "Байрам" надрукуе прозвішчы татар, якія ёсць у тым даведніку, а таксама старонкі, на якіх змешчана інфармацыя. Можа б знайшоуся татарын ці татарка, які узяуся і не надта многа "здзіраючы" рабіу бы копіі-ксераксы і дасылау зацікауленым людзям. Трэба дадаць, што кніга Станіслава Дзядулевіча на польскай мове. Вядомы гісторык Станіслау Думін лічыць, што у гэтай кнізе шмат хібау і нельга верыць усяму, што там надрукавана.

Якуб з рэдакцыі "Байрама" са скрухай паведамляе пра тое, што не змог знайсці чалавека, які б падрыхтавау татарскую дзіцячую песню: словы па-татарску і па-беларуску, ноты. Нам вядомы пяць мужчын і жанчын, якія маюць вышэйшую музычную адукацыю, але нікога не удалося упрасіць зрабіць адну старонку матэрыялу для татарскіх дзяцей. Чаму? Няма нотнай паперы, няма тэксту, няма адэкватнага перакладу, няма часу, няма настрою... Спадзяемся на лепшае, спадзяемся на тое, што знойдзецца добрая, пявучая душа.

---

( працяг са старонкі 111 )

не зусім "па правілах", як сямімесячны нарадзіуся у адзін дзень з сынам Абд аль-Мутталіба. Усе свае здольнасці, нават хітрасць і часам ашуканства ён аддае на карысць Гамзе, на карысць арабскага народа.

Вядома, падзеі і героі арабскіх сір — гэта не дакументальныя паданні пра гістарычных асоб і падзеі. У гэтых займальных творах напісана тое, аб чым хацелі ведаць простыя людзі і як яны сабе уяулялі аб мінулым сваёй і суседніх краін.

Калі пасля вучобы вярнуся на радзіму, то абавязкова прачытаю пра Гамзу па-арабску і параунаю з тым, як зрабілі пераклад гэтай сіры на рускую мову Н. Ібрагімава і Т. Мухтарава.

Студэнт 3-га курса політэхнічнай акадэміі Інад Індзку.

# МУСУЛЬМАНСКІЯ СВЯТЫ І ПАМЯТНЫЯ ДАТЫ

БЕРАТ, ноч адпушчэння грахоў, 15-я ноч месяца Шаўбан,
з 6 на 7 студзеня

РАМАЗАН, Р а м а д а н, святы пост, пачынаецца 1 Рамазана,
з 22 студзеня па 20 лютага уключна

ПЕРШЫ ТАРАВІХ, малебен перад Рамазанам, у ноч з 21 на
22 студзеня

ДРУГІ ТАРАВІХ, малебен у сярэдзіне месяца Рамазана, у ноч
з 4 на 5 лютага

КАДЫР-НОЧ, 27-я ноч Рамазана, малебен у ноч з 16 на 17 лютага

РАМАЗАН-БАЙРАМ, 3 дні месяца Шаўвал, 21, 22 і 23 лютага

КУРБАН-БАЙРАМ, 10, 11, 12 і 13 Зіль-Хаджа, 29, 30 красавіка,
1 і 2 траўня /мая/

НОВЫ 1417 ГОД ХІДЖРА, 1 Мухаррэма, 19 траўня /мая/

ДЗЕНЬ АШУРА, дзень жалобы, 10-ы дзень Мухаррэма, 28 траўня
/мая/

МАЎЛЮД, дзень нараджэння Мухамеда-прарока, 12-ы дзень
Раббі Уль-Авваля, 28 ліпеня

НОЧ-РАГАЙБ, Н о ч - Р а д ж а б, 3-я ноч Раджаба, з
13 на 14 лістапада

МЕРАДЖ /М е р а д з ь - н о ч/, 27-я ноч Раджаба, начное
падарожжа Мухаммеда-прарока, з 7 на 8 снежня

Супастаўны Турэцка-мусульманскі і Еўрапейскі
каляндар склаў Ісмаіл Александровіч.

# ЕЎРАПЕЙСКІ КАЛЯНДАР НА 1996 ГОД І ТУРЭЦКА-МУСУЛЬМАНСКІ КАЛЯНДАР НА I4I6—I4I7 ХІДЖРА

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| СТУДЗЕНЬ /ЯНВАРЬ/ | I | Пн | 9 | ШАЎБАН /ША"АБУН/ | ЛЮТЫ /ФЕВРАЛЬ/ | I | Чц | II | РАМАЗАН /РАМАДАНУМ/ |
| | 2 | Ат | I0 | | | 2 | Пт | I2 | |
| | 3 | Ср | II | | | 3 | Сб | I3 | |
| | 4 | Чц | I2 | | | 4 | Нд | I4 | |
| | 5 | Пт | I3 | | | 5 | Пн | I5 | |
| | 6 | Сб | I4 | | | 6 | Ат | I6 | |
| | 7 | Нд | I5 | | | 7 | Ср | I7 | |
| | 8 | Пн | I6 | | | 8 | Чц | I8 | |
| | 9 | Ат | I7 | | | 9 | Пт | I9 | |
| | I0 | Ср | I8 | | | I0 | Сб | 20 | |
| | II | Чц | I9 | | | II | Нд | 2I | |
| | I2 | Пт | 20 | | | I2 | Пн | 22 | |
| | I3 | Сб | 2I | | | I3 | Ат | 23 | |
| | I4 | Нд | 22 | | | I4 | Ср | 24 | |
| | I5 | Пн | 23 | | | I5 | Чц | 25 | |
| | I6 | Ат | 24 | | | I6 | Пт | 26 | |
| | I7 | Ср | 25 | | | I7 | Сб | 27 | |
| | I8 | Чц | 26 | | | I8 | Нд | 28 | |
| | I9 | Пт | 27 | | | I9 | Пн | 29 | |
| | 20 | Сб | 28 | | | 20 | Ат | 30 | |
| | 2I | Нд | 29 | | | 2I | Ср | I | ШАЎВАЛ /ШАЎУАЛУН/ |
| | 22 | Пн | I | РАМАЗАН /РАМАДАНУМ/ | | 22 | Чц | 2 | |
| | 23 | Ат | 2 | | | 23 | Пт* | 3 | |
| | 24 | Ср | 3 | | | 24 | Сб | 4 | |
| | 25 | Чц | 4 | | | 25 | Нд | 5 | |
| | 26 | Пт* | 5 | | | 26 | Пн | 6 | |
| | 27 | Сб | 6 | | | 27 | Ат | 7 | |
| | 28 | Нд | 7 | | | 28 | Ср | 8 | |
| | 29 | Пн | 8 | | | 29 | Чц | 9 | |
| | 30 | Ат | 9 | | | | | | |
| | 3I | Ср | I0 | | | | | | |

I студзеня — Новы 1996 год
7 студзеня — праваслаўныя Каляды
з 6 на 7 студзеня /I-я ноч месяца Шаўбан/ — Берат-ноч
з 22 студзеня па 20 лютага уключна /I Рамазана — пачынаецца Святы Пост/
у ноч з 21 на 22 студзеня — [illegible]
у ноч з 4 на 5 лютага — Другі Тараўіх
Ноч з I6 на I7 лютага — Кадыр-ноч /27-я ноч Рамазана/
2I, 22 і 23 лютага — Рамазан-Байрам /3 дні месяца Шаўвал/

* Маладзіковыя пятніцы пазначаны П*.

| Месяц | Дзень | Дзень тыдня | Дзень | Месяц |
|---|---|---|---|---|
| САКАВІК /МАРТ/ | I | Пт | I0 | ШАЎВАЛ /ШАЎУАЛДН/ |
| | 2 | Сб | II | |
| | 3 | Нд | I2 | |
| | 4 | Пн | I3 | |
| | 5 | Ат | I4 | |
| | 6 | Ср | I5 | |
| | 7 | Чц | I6 | |
| | 8 | Пт | I7 | |
| | 9 | Сб | I8 | |
| | I0 | Нд | I9 | |
| | II | Ат | 20 | |
| | I2 | Ат | 2I | |
| | I3 | Ср | 22 | |
| | I4 | Чц | 23 | |
| | I5 | Пт | 24 | |
| | I6 | Сб | 25 | |
| | I7 | Нд | 26 | |
| | I8 | Пн | 27 | |
| | I9 | Ат | 28 | |
| | 20 | Ср | 29 | |
| | 2I | Чц | I | ЗІЛЬ-КААДА |
| | 22 | Пт* | 2 | |
| | 23 | Сб | 3 | |
| | 24 | Нд | 4 | |
| | 25 | Пн | 5 | |
| | 26 | Ат | 6 | |
| | 27 | Ср | 7 | |
| | 28 | Чц | 8 | |
| | 29 | Пт | 9 | |
| | 30 | Сб | I0 | |
| | 3I | Нд | II | |

| Месяц | Дзень | Дзень тыдня | Дзень | Месяц |
|---|---|---|---|---|
| КРАСАВІК /АПРЕЛЬ/ | I | Пн | I2 | ЗІЛЬ-КААДА /ЗІЛЬ-КА"ДА/ |
| | 2 | Ат | I3 | |
| | 3 | Ср | I4 | |
| | 4 | Чц | I5 | |
| | 5 | Пт | I6 | |
| | 6 | Сб | I7 | |
| | 7 | Нд | I8 | |
| | 8 | Пн | I9 | |
| | 9 | Ат | 20 | |
| | I0 | Ср | 2I | |
| | II | Чц | 22 | |
| | I2 | Пт | 23 | |
| | I3 | Сб | 24 | |
| | I4 | Нд | 25 | |
| | I5 | Пн | 26 | |
| | I6 | Ат | 27 | |
| | I7 | Ср | 28 | |
| | I8 | Чц | 29 | |
| | I9 | Пт* | 30 | |
| | 20 | Сб | I | ЗІЛЬ-ХАДДЖА /ЗІЛЬ-ХАДДЖА/ |
| | 2I | Нд | 2 | |
| | 22 | Пн | 3 | |
| | 23 | Ат | 4 | |
| | 24 | Ср | 5 | |
| | 25 | Чц | 6 | |
| | 26 | Пт | 7 | |
| | 27 | Сб | 8 | |
| | 28 | Нд | 9 | |
| | 29 | Пн | I0 | |
| | 30 | Ат | II | |

8 сакавіка — Дзень жанчын

I5 сакавіка -- Дзень канстытуцыі

25 сакавіка — Дзень абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі

7 красавіка -- каталіцкі Вялікдзень

I5 красавіка -- праваслаўны Вялікдзень

29, 30 красавіка /I і 2 траўня/ — Курбан-Байрам /I0, II, I2 і I3 Зіль-Хаджа/.

| ТРАВЕНЬ /МАЙ/ | | | | ЧЭРВЕНЬ /ИЮНЬ/ | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I | Ср | I2 | ЗІЛЬ-ХАДЖЖА /ЗИЛЬ-ХАДЖА/ | I | Сб | I4 | МУХАРРЭМ /МУХАРРАМУН/ |
| 2 | Чц | I3 | | 2 | Нд | I5 | |
| 3 | Пт | I4 | | 3 | Пн | I6 | |
| 4 | Сб | I5 | | 4 | Ат | I7 | |
| 5 | Нд | I6 | | 5 | Ср | I8 | |
| 6 | Пн | I7 | | 6 | Чц | I9 | |
| 7 | Ат | I8 | | 7 | Пт | 20 | |
| 8 | Ср | I9 | | 8 | Сб | 2I | |
| 9 | Чц | 20 | | 9 | Нд | 22 | |
| I0 | Пт | 2I | | I0 | Пн | 23 | |
| II | Сб | 22 | | II | Ат | 24 | |
| I2 | Нд | 23 | | I2 | Ср | 25 | |
| I3 | Пн | 24 | | I3 | Чц | 26 | |
| I4 | Ат | 25 | | I4 | Пт | 27 | |
| I5 | Ср | 26 | | I5 | Сб | 28 | |
| I6 | Чц | 27 | | I6 | Нд | 29 | |
| I7 | Пт* | 28 | | I7 | Пн | 30 | |
| I8 | Сб | 29 | | I8 | Ат | I | САФАР /САФАРУН/ |
| I9 | Нд | I | МУХАРРЭМ /МУХАРРАМУН/ | I9 | Ср | 2 | |
| 20 | Пн | 2 | | 20 | Чц | 3 | |
| 2I | Ат | 3 | | 2I | Пт* | 4 | |
| 22 | Ср | 4 | | 22 | Сб | 5 | |
| 23 | Чц | 5 | | 23 | Нд | 6 | |
| 24 | Пт | 6 | | 24 | Пн | 7 | |
| 25 | Сб | 7 | | 25 | Ат | 8 | |
| 26 | Нд | 8 | | 26 | Ср | 9 | |
| 27 | Пн | 9 | | 27 | Чц | I0 | |
| 28 | Ат | I0 | | 28 | Пт | II | |
| 29 | Ср | II | | 29 | Сб | I2 | |
| 30 | Чц | I2 | | 30 | Нд | I3 | |
| 3I | Пт | I3 | | | | | |

I траўня /мая/ — Свята працы

I і 2 траўня /мая/ — працяг свята Курбан-Байрам

2 траўня /мая/ — Радаўн іца /праваслаўная/

9 траўня /мая/ — Дзень Перамогі

I9 траўня /мая/ — Новы I4I7 год Хіджра /I Мухаррэма/

28 траўня /мая/ — Дзень Ашура /дзень жалобы/ — I0 дзень Мухаррэма.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| ЛІПЕНЬ /ИЮЛЬ/ | 1 | Пн | 14 | САФАР /САФАРУН/ |
| | 2 | Ат | 15 | |
| | 3 | Ср | 16 | |
| | 4 | Чц | 17 | |
| | 5 | Пт | 18 | |
| | 6 | Сб | 19 | |
| | 7 | Нд | 20 | |
| | 8 | Пн | 21 | |
| | 9 | Ат | 22 | |
| | 10 | Ср | 23 | |
| | 11 | Чц | 24 | |
| | 12 | Пт | 25 | |
| | 13 | Сб | 26 | |
| | 14 | Нд | 27 | |
| | 15 | Пн | 28 | |
| | 16 | Ат | 29 | |
| | 17 | Ср | 1 | РАББІ УЛЬ-АВВАЛЬ /РАББІУН АЛЬ-АУАЛЮ/ |
| | 18 | Чц | 2 | |
| | 19 | Пт* | 3 | |
| | 20 | Сб | 4 | |
| | 21 | Нд | 5 | |
| | 22 | Пн | 6 | |
| | 23 | Ат | 7 | |
| | 24 | Ср | 8 | |
| | 25 | Чц | 9 | |
| | 26 | Пт | 10 | |
| | 27 | Сб | 11 | |
| | 28 | Нд | 12 | |
| | 29 | Ат | 13 | |
| | 30 | Ср | 14 | |
| | 31 | Чц | 15 | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| ЖНІВЕНЬ /АВГУСТ/ | 1 | Пт | 16 | РАББІ УЛЬ-АВВАЛЬ /РАББІУН АЛЬ-АУАЛЮ/ |
| | 2 | Сб | 17 | |
| | 3 | Нд | 18 | |
| | 4 | Пн | 19 | |
| | 5 | Ат | 20 | |
| | 6 | Ср | 21 | |
| | 7 | Чц | 22 | |
| | 8 | Пт | 23 | |
| | 9 | Сб | 24 | |
| | 10 | Нд | 25 | |
| | 11 | Пн | 26 | |
| | 12 | Ат | 27 | |
| | 13 | Ср | 28 | |
| | 14 | Чц | 29 | |
| | 15 | Пт* | 30 | |
| | 16 | Сб | 1 | РАББІ УЛЬ-АХЫР /ЯРАББІУН АЛЬ-ССАНІ/ |
| | 17 | Нд | 2 | |
| | 18 | Пн | 3 | |
| | 19 | Ат | 4 | |
| | 20 | Ср | 5 | |
| | 21 | Чц | 6 | |
| | 22 | Пт | 7 | |
| | 23 | Сб | 8 | |
| | 24 | Нд | 9 | |
| | 25 | Пн | 10 | |
| | 26 | Ат | 11 | |
| | 27 | Ср | 12 | |
| | 28 | Чц | 13 | |
| | 29 | Пт | 14 | |
| | 30 | Сб | 15 | |
| | 31 | Нд | 16 | |

27 ліпеня — Дзень Незалежнасці

28 ліпеня — Мяулюд — Дзень нараджэння Мухамеда- прарока /12-ы дзень Раббі Уль-Аввалля/.

| ВЕРАСЕНЬ /СЕНТЯБРЬ/ | | | |
|---|---|---|---|
| I | Нд | I7 | САФАР /САФАРУН/ |
| 2 | Пн | I8 | |
| 3 | Ат | I9 | |
| 4 | Ср | 20 | |
| 5 | Чц | 2I | |
| 6 | Пт | 22 | |
| 7 | Сб | 23 | |
| 8 | Нд | 24 | |
| 9 | Пн | 25 | |
| I0 | Ат | 26 | |
| II | Ср | 27 | |
| I2 | Чц | 28 | |
| I3 | Пт* | 29 | |
| I4 | Сб | I | РАББІ УЛЬ-АВВАЛЬ /РАБІУН АЛЬ-АУАЛЮ/ |
| I5 | Нд | 2 | |
| I6 | Пн | 3 | |
| I7 | Ат | 4 | |
| I8 | Ср | 5 | |
| I9 | Чц | 6 | |
| 20 | Пт | 7 | |
| 2I | Сб | 8 | |
| 22 | Нд | 9 | |
| 23 | Пн | I0 | |
| 24 | Ат | II | |
| 25 | Ср | I2 | |
| 26 | Чц | I3 | |
| 27 | Пт | I4 | |
| 28 | Сб | I5 | |
| 29 | Нд | I6 | |
| 30 | Пн | I7 | |

| КАСТРЫЧНІК /ОКТЯБРЬ/ | | | |
|---|---|---|---|
| I | Ат | I8 | РАББІ УЛЬ-АВВАЛЬ /РАБІУН АЛЬ-АЎАЛЮ/ |
| 2 | Ср | I9 | |
| 3 | Чц | 20 | |
| 4 | Пт | 2I | |
| 5 | Сб | 22 | |
| 6 | Нд | 23 | |
| 7 | Пн | 24 | |
| 8 | Ат | 25 | |
| 9 | Ср | 26 | |
| I0 | Чц | 27 | |
| II | Пт | 28 | |
| I2 | Сб | 29 | |
| I3 | Нд | 30 | |
| I4 | Пн | I | РАББІ УЛЬ-АХЫР /РАБІУН АЛЬ-ССАНІ/ |
| I5 | Ат | 2 | |
| I6 | Ср | 3 | |
| I7 | Чц | 4 | |
| I8 | Пт* | 5 | |
| I9 | Сб | 6 | |
| 20 | Нд | 7 | |
| 2I | Пн | 8 | |
| 22 | Ат | 9 | |
| 23 | Ср | I0 | |
| 24 | Чц | II | |
| 25 | Пт | I2 | |
| 26 | Сб | I3 | |
| 27 | Нд | I4 | |
| 28 | Пн | I5 | |
| 29 | Ат | I6 | |
| 30 | Ср | I7 | |
| 3I | Чц | I8 | |

I7 верасня --- Уз"яднанне Заходняй і Усходняй Беларусі

